4 лістапада 2016 | № 42 (507)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10042

Пасля 8 лістапада стар. 9








# Сталінізм у галаве

## Сталінская сістэма прываблівая, бо не патрабуе працы над сабой



Сяргей ПУЛЬША

У ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада 1961 года, акурат на Хэлоўін, з Маўзалею вынеслі і перапахавалі цела Сталіна. Па ўсім СССР пачалі зносіць помнікі тырану. 3 лістапада 1961 года быў дэмантаваны помнік Сталіну і ў Мінску.

Тады краіна жахалася з фактаў, якія адкрыліся з нагоды «развянчання культу асобы». Людзі нарэшце пабачылі ў часопісах «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» Салжаніцына, даведаліся пра ГУЛАГ і выбудаваную сістэму рэпрэсій. Жахнуліся, варта адзначыць, тыя ж людзі, якія шчыра плакалі на пахаванні «любімага Іосіфа Вісарыёнавіча» яшчэ няпоўных дзесяць гадоў таму.

Потым быў брэжнеўскі «застой» і гарбачоўская «перабудова», падчас якой, падаецца, увесь СССР канчаткова павінен быў бы вызначыцца, што такое «сталінскія часы» і якая роля як самога Сталіна, так і створанага культу яго асобы. Зразумела, гэты культ ствараў не толькі сам Сталін. Яго стваралі тыя ж людзі, якія даносілі на суседзяў, шальмавалі Салжаніцына, шукалі ворагаў народа, а пасля жахаліся ад таго, што, аказваецца, рабілася ў краіне.

Але гэты культ асобы і яго праявы дасюль застаюцца з намі. Заўсёды знаходзяцца тыя, хто жадае «моцнай рукі», хто лічыць, што «Сталін прыняў краіну з сахой, а пакінуў з атамнай бомбай». І неістотна, якім коштам і якой крывёю гэта было дасягнута. Гэтыя людзі не задумваюцца: а калі б не было гэтай «моцнай рукі», няўжо б краіна заставалася «з сахою» — нягледзячы на ўвесь навукова-тэхнічны прагрэс XX стагоддзя?

На жаль, пра гэта не думаюць стваральнікі «лініі Сталіна». Дзякуй, што мы далей гэтага не пайшлі. У Расіі, якая зараз заклапочаная адраджэннем сваёй імперскай вялікасці, Сталіна ў чарговы раз уздымаюць на п'едэстал. У Сургуце — горадзе, абкружаным сталінскімі «зонамі», нечакана з'явіўся помнік Сталіну. Прычым грамадскасць збірала грошы на мемарыяльны знак ахвярам рэпрэсій, а атрымала бюст «правадыра народаў». У Рэспубліцы Комі памятную дошку адкрылі не ахвярам сталінізму, а стваральнікам лагпункту № 19 «Водараздзеллаг-Мікуньская». Гэта быў апошні з адкрытых пры Сталіне палітычны спецлагер ГУЛАГу. Ён быў ліквідаваны ў 1954 годзе, неўзабаве пасля смерці Сталіна.

Зараз шмат аматараў узгадаць Сталіна добрым словам.

У адным з кастрычніцкіх нумароў мы друкавалі расповед Сяргея Харэўскага, дзе ён згадвае, што ягонага дзеда не раз арыштоўвалі, але потым адпускалі дзякуючы ганаровай грамаце, падпісанай Сталіным.

Не ўсім так шчасціла: майго прадзеда арыштавалі і выслалі за «антысавецкую агітацыю» нягледзячы на мандат, падпісаны самім Ульянавым-Леніным.

Так што аматарам сталінізму трэба было б падумаць, у які год яны б патрапілі пад каток: у 1935-м, 1937-м, 1940-м, 1947-м? І чым бы для іх скончылася «прыхільнасць»: расстрэлам альбо ГУЛАГам?

Сталінская сістэма прываблівая. І прываблівая, найперш, тым, што ў ёй не трэба ажыццяўляць самую цяжкую працу — працу над сабою. Там не трэба думаць. Тое, што сказаў правадыр, — апрыёры ісціна. Тое, што робіцца, робіцца, таму што «так трэба». І з-за гэтага яна яшчэ доўга будзе сядзець у галовах нашых суайчыннікаў.



Свежы прыклад: днямі ў Мінску знакаміты арыштамі апазіцыянераў суддзя Валер Есьман прысудзіў да двух гадоў абмежавання волі 17-гадовага падлетка нібыта за тое, што той збіў супрацоўніка АМАПу. Калі паглядзець на «збіўшага» — пра такіх у народзе кажуць «здыхлік неўміручы». «Збіты» ж больш падобны на Тэрмінатара ў выкананні Шварцнэгера.

Чаму суддзя Есьман не звярнуў увагу на відавочную недарэчнасць абвінавачвання? Таму што «так трэба», каб трымаць у страху грамадства. Таму што і суддзя, і міліцыянт у сістэме, а ў сістэме прадстаўнік улады (супрацоўнік міліцыі) апрыёры мае рацыю. Нават калі свядома хлусіць, як было ў справе Уладзіміра Мацкевіча, калі міліцыянты паказвалі, што ён быў на мітынгу, на якім фізічна не мог прысутнічаць, паколькі знаходзіўся за межамі краіны. І ніякай адказнасці міліцыянты не панеслі. Як пакуль не панеслі адказнасці іншыя суддзі, што выносілі несправядлівыя прысуды, іншыя сведкі-міліцыянты, якія хлусілі свядома. Як і шмат тых, хто выносіў прысуды і прыводзіў іх у выкананне 70 гадоў таму.

> **Дзяржаве значна больш выгодна трымаць людзей у «сталінскім стылі»**

Гэта яшчэ адна апора «сталінізму ў мазгах» — татальная беспакараная хлусня.

Што можна зрабіць, каб выціснуць з галавы рэшткі сталінізму? У Беларусі грамадскасць арганізоўвала шмат розных мерапрыемстваў. У краіне адбыўся грамадскі трыбунал па разгляду злачынстваў сталінізму ў Беларусі, які вынес сваё заключэнне. Беларускія хрысціянскія дэмакраты не спыняюць кампаніі «Пакаянне» з ушанаваннем памяці рэпрэсаваных. «Дзяды», што праходзяць раз на год, — гэта таксама своеасаблівая прышчэпка ад сталінізму.

Але, на жаль, усё гэта робіцца не на дзяржаўным узроўні. Дзяржаве (скажам шчыра) значна больш выгодаў трымаць людзей у «сталінскім стылі». Дзяржава рыхтуецца адзначыць 99-ю гадавіну Кастрычніцкага перавароту.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ПІНСК. Паўмільёна доляраў штрафаў

**Мясцовая падатковая налічыла 500 000 доляраў штрафаў прадпрымальніцкай сям'і з Пінска. Калісьці яны былі ІП, потым зарэгістравалі яшчэ і ПУП. І вялі паміж сабою гандаль. Гэты гандаль падатковая лічыць незаконным.**

Спачатку налічылі штрафаў на 75 мільёнаў рублёў старымі. Прадпрымальнік усё заплаціў. Аднак праз некаторы час ІМПЗ падала іск у суд аб прызнанні дамовы паміж ІП і гэтым ПУП нікчэмнай і налічыла ўвесь абарот за 8 гадоў — гэта значыць з 2008 па 2016 гады — як незаконна атрыманы даход. Уся выручка за 8 гадоў, у павялічаным маштабе, была канфіскавана.

Дэталі дамовы такія: сам ІП прадаваў беларускі тавар свайму ПУП і плаціў падаткі 8 гадоў як мае быць. Урону дзяржаве, са слоў прадпрымальніка, нанесена не было. Але гэту дамову падатковая прызнала нікчэмнай і не адпавядаючай Падатковаму кодэксу, і таму ўключыла такія вар'яцкія санкцыі.

Штрафы выпісалі ІП і ПУП, гэта значыць, адной сям'і. Сям'я гандлявала будматэрыяламі беларускай вытворчасці.

На думку ІП, непамернае пакаранне навідавоку. Прадпрымальнік падаў касацыю ў Вярхоўны суд. Вядома, што ў прадпрымальніка шматдзетная сям'я — чацвёра дзяцей, апошні нарадзіўся нядаўна.

**Паводле belaruspartisan.org**

### БАРАНАВІЧЫ. Выбары працягваюцца

**Рыгора Грыка ў Баранавічах хочуць пакараць за передвыбарчы пікет. Днямі актывіст вярнуўся ад бацькоў з Украіны і быў здзіўлены паведамленнем пра заведзеную на яго адміністрацыйную справу. Актывіста абвінавачваюць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце. Хаця передвыбарчы пікет экс-кандыдата ў Палату прадстаўнікоў Мікалая Чарнавуса, у якога Грык быў даверанай асобай, быў абсалютна законным. У пратаколе, складзеным пасля выбараў баранавіцкімі міліцыянтамі, адзначаецца, што правапарушэння ў дзеяннях Грыка няма.**

«У пратаколе напісана, што ў маіх дзеяннях парушэнняў няма. І я ведаю, што я не вінаваты, усё рабіў па законе. Зараз мне прыйшла паперка з Кобрына, напісана, што ў дзеяннях Меха і Рыгора Грыка парушэнняў няма. І адміністрацыйная справа закрыта Кобрынскім ГАУС, так што ў Кобрыне мы не вінаватыя. А я такі ж самы пікет праводзіў і ў Баранавічах», — кажа Грык.

У Баранавіцкім судзе суддзя Аксана Копач ужо двойчы спрабавала правесці судовае пасяджэнне без Грыка. Праваабаронцы выказалі пратэст у кнізе скаргаў.

**Паводле Беларускага Радыё Рацыя**

### БРЭСТ. Праблема мігрантаў узмацняецца

**Грамадзянкі Расіі з Чачні, якая дамагаецца атрымання статусу бежанца ў Польшчы, ледзь не нарадзіла ў цягніку Цярэспаль — Брэст. Яна 28 кастрычніка паехала ранішнім цягніком у польскі Цярэспаль разам з мужам і чатырма дзецьмі. На польскім баку на пашпартным кантролі яе адправілі ў залу вакзала для чакання зваротнага цягніка. Калі мігрантаў пасадзілі ў вагоны, каб выправіць іх у Брэст, у жанчыны адышлі воды. Яе вывелі з цягніка і перадалі хуткай.**

Яе мужа і дзяцей з цягніка не здымалі — яны вярнуліся ў Брэст. Пра стан маці і дзіцяці нічога не вядома: муж не можа з ёй звязацца па тэлефоне, а праз мяжу яго не пускаюць з-за адсутнасці візы.

Як кажа сузаснавальнік праваабарончай арганізацыі Human Constanta Аляксей Казлюк, зараз у Брэсце знаходзяцца ад адной да трох тысяч «патэнцыйных уцекачоў». «Патэнцыйных», бо ў Беларусі яны за статусам уцекача не звярталіся, а польскія памежнікі ў краіну іх не пускаюць. Людзі кажуць, што хочуць атрымаць прытулак, на што ім адказваюць: «Гэтага мы не чулі».

Паводле польскага заканадаўства, памежнікі павінны прыняць у гэтых людзей заяву ў вуснай ці пісьмовай форме, прапусціць і перадаць у службу па справах замежнікаў, якая праводзіць праверку і вырашае, ці маюць яны права на прытулак. Але памежнікі проста разварочваюць людзей у Беларусь.

**Паводле tut.by, spring96.org**

# Падатак на дармаедства: што рабіць?

**Падатковыя органы ўсё часцей спрабуюць спагнаць з беларусаў падатак на дармаедства. Прычым, падатковыя органы дасылаюць паперы студэнтам, грамадзянам, якія працуюць за межамі краіны і нават памерлым. Сітуацыю з дэкрэтам «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства» і падаткам каментуе магілёўскі юрыст Барыс Бухель.**

Калі вам прапаноўваюць альбо прадставіць доказы, што вы — не сацыяльны ўтрыманец, альбо заплаціць падатак на дармаедства (афіцыйна — заплаціць збор за сацыяльнае ўтрыманства), варта прыслухацца да наступных парад.

Першая парада — не хадзіць у падатковую і чакаць. Дэкрэты і законы мяняюцца ў нас лёгка. Невядома, што будзе праз паўгода ці год. Проста пачакайце, што будзе. Магчыма, вялікая маса людзей проста адмовіцца плаціць падатак на дармаедства.

Ліст з падатковай — не позва, па якой яўка строга абавязковая. Рассылаюць такія лісты практычна ледзь не ўсім запар: і памерлым, і мамам у дэкрэце, і тым, хто афіцыйна працуе за мяжой. Думаецца, будзе шмат выпадкаў, калі яны могуць і не дайсці да адрасата.

Калі справа дойдзе да позваў — тады яны павінны быць афармленыя належным чынам. Пры гэтым патрэбны ваш роспіс, што вам яе ўручылі. Але пакуль да позваў справы не дайшлі.

Асобна трэба сказаць пра тых, хто знаходзіцца далёка ад месца прапіскі, куды прыходзяць такія лісты. Калі вы — адзін з такіх людзей і ўсё ж такі вырашылі прыехаць і даць справаздачу падатковай, то за вамі застаецца права запатрабаваць ад іх аплаты праезду. Для гэтага пішыце паперу з прэтэнзіяй. Калі падатковая адмовіцца — смела звяртайцеся ў суд. Адпаведна, вы можаце таксама патрабаваць кампенсаваць страты, звязаныя з паездкай, асабліва калі вы працуеце за мяжой і вам давялося браць адпачынак за свой кошт.

Не бойцеся звяртацца ў суд, калі вы лічыце, што падатак на дармаедства з вас патрабуюць незаконна. Смела падавайце скаргу. У выпадку патрэбы, абскардзіце рашэнне суда ў вышэйшых інстанцыях.

**Паводле mspring.online**

# Расійскі рубель і кошык валют

Генадзь КЕСНЕР

**Ад 1 лістапада Нацыянальны банк Беларусі павялічыў прысутнасць расійскага рубля ў айчынным кошыку валют. Дзеля чаго? Ці паўплывае гэта на курс беларускага рубля?**

Як паведамляецца на сайце рэгулятара, «Праўленнем Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь прынята рашэнне аб змяненні ад 1 лістапада 2016 года вагаў валют у кошце кошыку замежных валют і ўстанаўленні іх на наступных узроўнях: для расійскага рубля — 50%, для долара ЗША — 30% і для еўра — 20%». Да лістапада суадносіны расійскага рубля, амерыканскага долара і еўра ў кошыку валют Нацбанка складалі 40%, 30% і 30% адпаведна. Сітуацыю ў інтэрв'ю «Новаму Часу» тлумачыць старшы аналітык брокерскай кампаніі «Альпары» **Вадзім Іасуб**.

— Для ўжывання падобных кошыкаў валют выкарыстоўваюць валюты асноўных гандлёвых партнёраў, і вага кожнай валюты прапарцыянальная долі той ці іншай краіны ў агульным знешнім тавараабароце. У нас доля Расіі ў знешнім гандлі складае амаль 50%, таму і валютны кошык быў прыведзены ў адпаведнасць з той вагай, якую ў нашым знешнім гандлі займае Расія.

***— Ці адаб'ецца гэта на курсах долара і еўра ў адносінах да беларускага рубля?***

— Абсалютна ніяк. У курсаўтварэнні нічога не змянілася, курсы па-ранейшаму будуць вагацца ў адпаведнасці з попытам і прапановаю, і гэтыя захады ні да ўмацавання беларускага рубля, ні да ягонага аслаблення да любых валютаў не прывядуць.

***— Чаму расійскі рубель займае ўжо палову ў беларускім кошыку валют?***

— Менавіта таму, што ёсць факт: Расія займае палову знешняга гандлю Беларусі. Ніякіх іншых прычынаў альбо тэорыяў змовы тут шукаць не варта, як і не варта фармуляваць, як гэта робяць некаторыя, што беларускі рубель прывязалі да расійскага. І раней курс расійскага рубля штодня мяняўся знізу ўверх і наадварот, гэтаксама і надалей ён будзе мяняцца. Ні пра якую штучную прывязку гаворка не вядзецца.

Кошык валют — гэта абсалютна разліковая рэч, і да таго, што крыху памянялі формулу, як вылічваць гэты кошык, ніякага ўплыву на курс валютаў не будзе.

***— Калі будуць меркаванні скептыкаў, што і тут умяшалася Расія, павялічыўшы ў беларускім кошыку валют долю свайго рубля, што можна на гэта адказаць?***

— Наша ступень залежнасці ад расійскага рубля і ад расійскай эканомікі акурат і вызначаецца тым, што Расія ёсць наш найбуйнейшы эканамічны партнёр, а не тым, які працэнт расійскі рубель будзе займаць у нашым кошыку валют. То бок, тут не трэба блытаць прычыны і наступствы. Гэтая залежнасць аб'ектыўная, і яна вельмі вялікая — 50% знешняга гандлю прыходзіцца на Расію, таму і справа ў долі Расіі ў нашым знешнім гандлі, а не ў тым, які працэнт расійскага рубля будзе ў нашым кошыку.

# Перайменаваць Камсамольскую ў вуліцу Слуцкіх паўстанцаў

Зінаіда ЦІМОШАК

**«Новы Час» інфармаваў у жніўні пра збор подпісаў пад калектыўным зваротам аб ушанаванні памяці Слуцкага паўстання.**

Грамадскія актывісты перададуць 550 сабраных подпісаў у Слуцкі райвыканкам. Кандыдат гістарычных навук Ніна Стужынская, аўтар кнігі пра Слуцкае паўстанне, ухваліла намер случчан ушанаваць памяць сваіх герояў.

«Тапаніміка беларускіх гарадоў — «чорная» мапа, на якой затрымаліся ворагі беларушчыны, — лічыць Стужынская. — Случчакі вартыя гістарычнай справядлівасці, простай чалавечай удзячнасці, якая б увасобілася ў назвах вуліц. Слуцкія паўстанцы незаслужана займаюць малое месца ў гістарычнай памяці. У той жа час здаровы сэнс падказвае, што якраз слуцкія героі даюць правільныя арыенціры сучаснаму грамадству, умацоўваюць нацыянальны суверэнітэт».

«Слуцкі збройны чын 1920 года — гэта знакавая падзея для нашага краю, — гаворыць супрацоўнік Слуцкага краязнаўчага музея Цішкевіч Васіль. — На мой погляд, матэрыял, які распавядае пра слуцкае паўстанне, павінен быць не толькі ў новай экспазіцыі дзяржаўнай установы «Слуцкі краязнаўчы музей», але і ў дзяржаўным гістарычным нацыянальным музеі».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Сумнае чаканне святаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У краіне нечакана выпаў снег. Гэта прымусіла ўзгадаць, што да Новага года застаецца крыху менш за два месяцы. Гледзячы на «белых мух» за вокнамі, міжволі задумаешся, што будзе на святочным стале і якія падарункі рыхтаваць родным.**



Відаць, на гэты Новы год беларусы асабліва не разгоняцца. Нават Белстат падае, што сярэдні заробак па краіне ў верасні знізіўся на 2,3%. У верасні ён склаў усяго 732,9 рубля. Пры гэтым заробак, большы за сярэдні па краіне, атрымліваюць толькі ў пяці раёнах Беларусі, а больш чым у палове зарплаты не дацягваюць да 300 долараў у эквіваленце.

Але гэта Белстат, і «сярэдні заробак па краіне», — гэта, як сумна жартуюць у інтэрнэце, «кіраўнік еў мяса, я еў капусту — разам мы елі галубцы». «Гэта разлічаная па Белстату зарплата, а рэальная і да 200 не дацягвае», — абураюцца карыстальнікі дыскусійнай пляцоўкі talks.by.

Вось толькі некалькі выказванняў з гэтай нагоды. «Рэальна сярэдні заробак у раёне не дацягвае да 300 рублёў, а не долараў». «Я калі свайму дырэктару прывяжу ў прыклад сярэднюю зарплату па Беларусі, ён мне прапануе ўзяць яго за руку і завесці ў арганізацыі, дзе рэальна такая зарплата… Крыць няма чым». «Або гэта падганяныя паказчыкі, або ў чыноўнікаў зарплата настолькі высокая, што дае такую сярэднюю па краіне». «У Віцебску на вакансію 170 рублёў набегла мноства прэтэндэнтаў».

З'едлівыя журналісты «Камсамольскай праўды» не спыніліся на статыстыцы па заробках. Яны паглядзелі, колькі каштавалі ў крамах прадукты ў снежні мінулага года і колькі каштуюць зараз (пры падзенні заробкаў, зразумела). Чаму за аснову быў узяты снежань? Таму што паводле таго ж Белстата ў параўнанні са снежнем інфляцыя ў краіне складае 8,3%.

Макароны падаражэлі на 33%. Сланечнікавы алей, без якога не абыходзіцца амаль ніводнае гатаванне, узняўся ў кошце на 22%. Мука падаражэла на 22%, рыс — на 32%, сыр — на 30%. Цалкам незразумела падаражэлі хрэн і гарчыца — на 50%. Лідарам у падаражанні сталі маласалёная фарэль вытворчасці Расіі — 71% і ананасы — 75%. Хаця, здавалася б, курс долара ў нас падае, і на валютных ваганні гэтага не спішаш.

І ўжо зусім нікуды не лезе падаражанне пітной вады ў бутэльках па паўтара літры — аж на 61%! Вытрымліваюць афіцыйны паказчык інфляцыі толькі ячныя крупы, якія ўзняліся ў цане на 7,5%.

Зразумела, што ў гэтых варунках народ з сумам прыгадвае абяцанкі Лукашэнкі пра 1000 долараў заробку ў 2015 годзе і нават настальгуе па абяцаным у 2006-м заробку ў 500 долараў. Людзі шукаюць, як падзарабіць, і таксама згадваюць пра яшчэ ўвесну абяцаныя ўзамен на павышэнне пенсійнага ўзросту 50 тысяч працоўных месцаў.

Але легальна падзарабіць не атрымаецца, бо, калі нават недзе і ёсць гэтыя 50 тысяч месцаў, то, па тых жа дадзеных Белстата, за 9 месяцаў 2016 года на чыстай аснове ў Беларусі звольнілі 91 тысячу чалавек. То бок, па два на абяцанае месца. Гэта ў паўтара разы больш у параўнанні з 2015 годам.

І гэта яшчэ не канец. Па ацэнках экспертаў, дзяржаўныя прадпрыемствы хутка будуць праходзіць працэдуры аўдыту «для выяўлення рэальнага фінансавага стану, што можа пацягнуць новую хвалю скарачэнняў».

«Калі дзяржава не будзе рабіць канкрэтных намаганняў па змене ўмоў дзейнасці для бізнесу, у пошуках працы насельніцтва ўсё часцей будзе разглядаць варыянт змены краіны пражывання або працаваць па-за полем гледжання афіцыйных органаў», — такі прагноз экспертаў, выкладзены ў аглядзе «Беларусь у фокусе».

Праўда, некаторыя працягваюць, як тая жабка ў малацэ, біць лапамі, каб збіць кавалак масла, на якім можна было б утрымацца. Індывідуальныя прадпрымальнікі распрацавалі ўласную альтэрнатыву ўказу №222, які практычна закрыў рынкі напачатку гэтага года. Праект прадпрымальніцкага ўказа называецца «Аб некаторых мерах па спрашчэнні рэгулявання і стымулявання індывідуальнай прадпрымальніцкай дзейнасці ў рознічным гандлі», і, як спадзяецца лідар аб'яднання ІПэшнікаў «Перспектыва» Анатоль Шумчанка, дазволіць вярнуць ІП на рынкі і гандлёвыя цэнтры.

Ва ўказе прадугледжаны «фіксаваны збор» з ІП замест падаткаў, павышаючыя каэфіцыенты на імпартную, і паніжаючыя — на беларускую прадукцыю, а таксама «прынцып добрасумленнасці» сябраў Мытнага саюза. То бок, калі тавар прыйшоў з Расіі, лічыцца, што там ён ужо прайшоў сертыфікацыю на бяспеку (акрамя дзіцячых тавараў). «Прыняцце гэтага ўказа дасць магчымасць забяспечыць прадпрымальнікам умовы спакойнай і бяспечнай працы, а краіне атрымаць больш падаткаў», — спадзяецца Шумчанка.

У прынцыпе, і без прадпрымальніцкага ўказу можна разняволіць ІП, прычым, без усялякіх турботаў. Іх тавар купляць мала хто будзе. Не таму, што тавар дрэнны, а таму, што пры сённяшнім стане заробкаў грошай у насельніцтва проста няма.

Амаль адначасна з прадпрымальніцкай ініцыятывай у офісе прафсаюза РЭП у Мінску актывісты, праваабаронцы і юрысты з усіх рэгіёнаў Беларусі думалі, як яны могуць супрацьстаяць дэкрэту аб дармаедстве. «Сустрэчу арганізавалі перш за ўсё для таго, каб выпрацаваць механізм дапамогі людзям, — адзначыў у каментары «Радыё Рацыя» старшыня незалежнага прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч. — Народ да канца не ўсвядоміў, што гэта можа тычыцца кожнага, і таго, хто нават сёння працуе. Заўтра кантракт скончыцца, і ты таксама падпадзеш пад гэты дэкрэт».

Цікавы выпадак наконт гэтага адбыўся ў Бабруйску. Там у «дармаеды» паспрабавалі запісаць студэнта, які вучыцца за мяжой. Калі падатковы інспектар пагля̀дзеў, што ў Беларусі небарака быў толькі тыдзень, ён прызнаў — пад падатак гэты чалавек не падпадае. І што ж зрабіў інспектар? Выкрасліў хлопца з базы дадзеных дармаедаў? «Інспектар сказаў выкідваць лісты на выплату падатку, калі будуць прыходзіць», — распавядае бацька студэнта.

Цікава тое, што заробкамі і працай заклапочаныя грамадскія арганізацыі і аб'яднанні. А не «сацыяльная дзяржава», якая, наадварот, стварае ўмовы, каб людзі гублялі заробак і працу.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Заснавальнік праваабарончай арганізацыі «Платформ інавэйшн» атрымаў статус злоснага парушальніка рэжыму ўтрымання ў калоніі.**

Пра гэта палітвязень, які адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі №14 у Навасадах, напісаў у лісце да праваабаронцы Тацціяны Рэвяка.

«Я нарэшце стаў злосным парушальнікам рэжыму ўтрымання. 19 кастрычніка мяне выклікалі ў медсанчастку, каб зрабіць флюараграфію, паколькі я ўжо год як у калоніі. Як прадугледжана КВК і ПВК, санітарны інструктар вывеў мяне з корпусу і паставіў у шэраг асуджаных, каб у суправаджэнні афіцэра пайсці да санчасткі. Не даходзячы 10 метраў да дзвярэй, мяне выклікаў апэратыўны супрацоўнік маёр Кавальчук і абвінаваціў у тым, што я без суправаджэння знаходжуся ў раёне ўчастка іншага атраду. Ён напісаў рапарт, на які рэакцыя адміністрацыі — абавязковая і негатыўная. Карацей, у дакладнасці паўтарылася схема, якую я абскардзіў у Барысаўскі раённы суд», — напісаў Жамчужны.

Жамчужны паведаміў, што вынікам падобнай правакацыі можа стаць пазбаўленне амністыі, а таксама прымяненне артыкула 411 Крымінальнага кодэкса «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы».

У ліпені 2015 года Жамчужны быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі. Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.

## Уладзімір Цумараў



**Імя кіраўніка Магілёва знікла з шыльды пад скульптурамі львоў, нядаўна ўсталяваных на мосце цераз Дняпро.**

На бронзавай таблічцы пад скульптурамі першым было выгравіравана імя старшыні Магілёўскага гарвыканкаму Уладзіміра Цумарава. Чыноўнік быў пазначаны як аўтар ідэі. Разам з яго імем зніклі імёны скульптура і кансультанта работ.

Намеснік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў упэўнены, што Цумараў паспяшаўся ўпісаць сваё імя ў гісторыю, бо адкрываць адрамантаваны мост прыедзе Аляксандр Лукашэнка. «Лукашэнку не дужа даспадобы, калі чыноўнікі, якіх ён прызначае на пасады, імкнуцца ўвекавечыць сваё імя. Кіраўнік дзяржавы лічыць: увекавечванне вартае толькі яго імя, іншых у гісторыі Беларусі не павінна быць», — выказаў меркаванне Кастусёў.

«Тое, што адбылося з шыльдамі на магілёўскім мосце, — кажа Кастусёў, — паказвае, якія правілы гульні, настрої ды парадкі пануюць у цяперашняй уладзе. Цумараў напярэдадні прыезду Лукашэнкі ў Магілёў, падумаўшы, не рызыкнуў пакінуць сваё імя пад ільвамі. Альбо быў сігнал з адміністрацыі прэзідэнта, што больш верагодна. Сцерлі ў выніку і імя Цумарава, і тых, хто непасрэдна працаваў над фігурамі», — заключае Кастусёў.

## Аляксандра Герасіменя



**Знакамітая беларуская плыўчыха яшчэ не вызначылася з датай вяселля. У эфіры праграмы «Арэна» на тэлеканале «Беларусь 1» Аляксандра Герасіменя сказала, што на вяселле пакуль няма часу: яна рыхтуецца да новага алімпійскага цыклу і «настроеная сур'ёзна».**

«Адпусціла ўсё дрэннае, што было, і настроена толькі на пазітыў. Заручыны з Яўгенам Цуркіным? Усё будзе, цяпер проста сумбурнасць такая, трэба будзе вызначыцца з датай вяселля», — сказала Герасіменя.

Пра блізкія адносіны Герасімені і Цуркіна стала вядома ў лютым 2016 года. У Facebook яны абмяняліся віншаваннямі з нагоды Дня закаханых, што адразу патрапіла ў СМІ.

Аляксандры Герасімені 31 снежня споўніцца 31 год. Яна — двухразовая віцэ-чэмпіёнка Алімпіяды 2012 года, уладальніца бронзы на Алімпіядзе 2016-га ў Рыа. Беларускаму плыўцу Яўгену Цуркіну 9 снежня споўніцца 26 гадоў. Яго лепшае дасягненне — перамога на чэмпіянаце Еўропы 2014 года.

Азбука паліталогіі

# Незаўважаны юбілей



Сяргей НІКАЛЮК

**Цяперашняя беларуская Канстытуцыя заснаваная на прынцыпах, распрацаваных рускім графам Сперанскім у пачатку XIX стагоддзя.**




19 кастрычніка 1996 года адзіны палітык (АП) з хваляваннем прыступіў да свайго дакладу на першым у гісторыі Усебеларускім народным сходзе. Строга кажучы, у той момант ён яшчэ не быў адзіным палітыкам, бо Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года прадугледжвала рэальны падзел уладаў, адной з якіх (падкрэсліваю: толькі адной) быў прэзідэнт.

Прывяду артыкул 95 дзейнай на той момант Канстытуцыі: «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады». А цяпер звернемся да Асноўнага закона, адрэдагаванага на другім канстытуцыйным рэферэндуме 24 лістапада 1996 года. Згодна з артыкулам 79, прэзідэнт «ажыццяўляе пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады», г.зн. ён выведзены з сістэмы падзелу ўладаў, ён стаіць над імі.

Гэта і ёсць галоўны прынцып нічым не абмежаванай улады, які ператварае кіраўніка дзяржавы ў адзінага палітыка. Вось як сам бенефіцыяр абноўленай Канстытуцыі вызначыў яго пазней для тых, хто не зразумеў сутнасці яго заканадаўчай ініцыятывы: «Ёсць судовая, заканадаўчая і выканаўчая галіны ўлады, над якімі, па Канстытуцыі, стаіць прэзідэнт, які іх кардынуе, накіроўвае, "зводзіць", "разводзіць" і гэтак далей».

## Два мядзведзя ў адным бярлогу

Не варта шукаць нацыянальную спецыфіку ў канстытуцыйнай рэформе 1996 года. Фарміраванне і функцыянаванне палітычных рэжымаў у СНД адбывалася па адзіным сцэнары. У зыходнай кропцы ва ўсіх краінах (нават у Туркменістане) былі абвешчаныя дэмакратыя, рынак, правы чалавека і рух у Еўропу. Пры гэтым ні адзін з неафітаў дэмакратыі не меў культурнай глебы для ажыццяўлення гэтых задач.

Вынікам спробаў практычна імгненнага пераходу з позняга савецкага таталітарызму да дэмакратыі еўрапейскага кшталту стала анархія, якая генеравала масавую замову на аднаўленне парадку і законнасці. Рэалізаваць яе, на думку большасці насельніцтва, была ў стане толькі выканаўчая ўлада на чале з моцным лідарам, а не «гэтыя балбатуны ў Вярхоўным Савеце».

Гэта была сацыяльная замова на пабудову імітацыйных дэмакратычных рэжымаў, рэальна аўтарытарных і персаналістычных, але задрапіраваных у сучасныя культурныя формы.

На хвалі Перабудовы ва ўсіх былых савецкіх рэспубліках паўсталі дэмакратычныя інстытуты, галоўнымі з якіх былі парламенты. Па-першае, таму што дэмакратыя прадугледжвае парламент. Па-другое, вялікае значэнне ў той перыяд мела ідэя «Уся ўлада саветам!».

Але логіка падзей патрабавала пераходу ад парламенцкіх рэспублік да рэспублік прэзідэнцкіх, і пасля адпаведных карэкціровак канстытуцый, прэзідэнты з'явіліся ва ўсіх краінах СНД.

Так быў дадзены старт супрацьстаянню парламентаў і прэзідэнтаў. Яны паўсталі ўсюды, і зыход іх быў заўсёды адзін — перамагалі прэзідэнты, таму што сімпатыі «большасці» нязменна аказваліся на іх баку.

«Айчынная публіка лічыць, — тлумачыць гісторык Юрый Піваварaў, — што канкуруюць "прэзідэнцкая" і "парламенцкая" рэспублікі. На самай жа справе канкуруюць два тыпы грамадства з адпаведнымі ім палітыка-арганізацыйнымі структурамі».

Заходняя грамадзянская супольнасць, у залежнасці ад нацыянальнай спецыфікі, з большым ці меншым поспехам адліваецца і ў прэзідэнцкую, і ў парламенцкую мадэль. Але ў СНД пад псеўданімамі «прэзідэнцкі» і «парламенцкі» тып праўлення хаваюцца два тыпы грамадства: традыцыйнае — уладацэнтрычнае і сучаснае (мадэрн) — антрапацэнтрычнае, галоўнай каштоўнасцю якога з'яўляецца чалавек.

Двум тыпам грамадства цяжка ўжыцца на адной тэрыторыі. Тут напрошваецца аналогія з двума мядзведзямі ў адным бярлогу, таму сістэмныя крызісы — абавязковы атрыбут расколатых грамадстваў у Новы час. Пры гэтым незалежна ад нацыянальнай спецыфікі фактары разбурэння і стабілізацыі выяўлялі сябе аднатыпна, хоць і з рознай ступенню інтэнсіўнасці. А вынікам рэвалюцый і смут заўсёды з'яўлялася вяртанне да зыходнай кропкі пад кіраўніцтвам правадыра-выратавальніка.

## Гібрыд вужа і вожыка

Увосень 1996 года грамадства, на думку будучага АП, стаяла перад выбарам: «ці Беларусь будзе заставацца закладніцай у руках палітыкаў, якія прагнуць рэваншу за свае паразы, ці ж мы ўсталюем належны правапарадак і накіруем усе сілы народа на рашэнне неадкладных праблем».

Такая чорна-белая карціна свету ва ўмовах крызісу запускае спіраль неадэкватных рэакцый адных на неадэкватныя ўчынкі іншых. Спыніць працэс яе раскручвання можна толькі максімальна ўмацаваўшы дзяржаву за кошт ліквідацыі правой грамадзян на палітычную дзейнасць, што на практыцы азначае вяртанне да гістарычна звыклай вертыкальнай канструкцыі з адзіным палітыкам на яе вяршыні.

Не ўпэўнены, што будучы АП, уладальнік дыплома гісторыка, карэктаваў Канстытуцыю з улікам папярэдняга вопыту. У 1808 годзе Аляксандр I даручыў Міхаілу Сперанскаму напісаць праект Канстытуцыі Расіі. Мала хто з чытачоў НЧ адважыцца выказаць здагадку, што сёння мы жывем па падрыхтаванаму Сперанскім «Уводзенні да ўлажэння дзяржаўных законаў». Зразумела, з невялікімі і непрынцыповымі зменамі.

Будучы чалавекам па-еўрапейску адукаваным, граф-рэфарматар прадугледзеў сістэму падзелу ўладаў на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Прычым падзел павінен быў закрануць усё расійскае грамадства — ад павета да губерні. Але адначасова, не забываючы пра свае расійскія карані, бацька першай расійскай Канстытуцыі вывеў постаць імператара з сістэмы падзелу ўладаў. Такім чынам, ён скрыжаваў вужа і вожыка, сумясціўшы заходні падыход з рускай традыцыйнай размяшчэння першай асобы дзяржавы над галінамі ўлады ў якасці іх каардынатара.

Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. За гады «добраахвотнага аб'яднання» двух народаў руская палітычная культура істотна пацясніла культуру Вялікага Княства Літоўскага. «Вандзя перабудовы» — так ахарактарызаваў пісьменнік Алесь Адамовіч рэспубліку-партызанку ў канцы 80-х гадоў, і ён быў недалёкі ад ісціны.

Праз 98 гадоў Мікалай II дараваў народам Расійскай імперыі Канстытуцыю, паводле якой імператару належала «Вярхоўная самадзяржаўная ўлада». Якое дакладнае слова распрацоўшчыкі Канстытуцыі знайшлі для ўлады імператара! Яна вярхоўная — гэта значыць, стаіць над астатнімі галінамі ўлады. Брава, Сперанскі!

Сёння Расія жыве па Асноўнаму закону 1993 года (па Канстытуцыі часоў Ельцына), у якой фігура прэзідэнта таксама выдзелена з сістэмы падзелу ўладаў. За дзвесце гадоў ідэя Сперанскага сваёй актуальнасці не страціла. Лепшага прыкладу захавання ўладнай традыцыі ў культуры, мабыць, і не прыгадаць.

## Утрымліваць і абараняць

Галоўным суб'ектам заходніх канстытуцый з'яўляецца грамадзянін, грамадзянская супольнасць і нацыя. Апошняя ёсць сродак інтэграцыі ўсіх элементаў грамадзянскай супольнасці ў палітычнае адзінства — дзяржаву.

Фармальна, і ў беларускай Канстытуцыі галоўным суб'ектам з'яўляецца народ: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь (Беларусі), зыходзячы з адказнасці за сучаснасць і будучыню Беларусі <...> прымаем гэтую Канстытуцыю...» У артыкуле 2 сцвярджаецца, што чалавек, яго правы і свабоды з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы. Словам, усё як у дэмакратычных заходніх канстытуцыях.

Але мы памятаем пра імітацыйную прыроду беларускай дэмакратыі. У нас галоўны суб'ект Канстытуцыі — улада. Тым, хто не ўмее чытаць Асноўны закон паміж радкоў, АП вымушаны ўвесь час пра гэта нагадваць. У апошні раз ён гэта зрабіў у кастрычніку бягучага года ў сваім звароце да парламентарыяў. Цытую: «улада, я, перш за ўсё, зацікаўленыя ў прафесіяналізме нашага парламента. Гэта пытанне нумар адзін»; «Любая ўлада ў сілу пэўных прычын <...> зацікаўленая ў парламенце, у такім, якім яна хоча яго бачыць».

Якое адкрытае процiпастаўленне ўлады парламенту. І без каментараў зразумела, хто тут суб'ект, а хто аб'ект. Згодна з Канстытуцыяй, парламент фармуюць выбаршчыкі, г. зн. грамадства. Магчыма, яно і так. Спрачацца не буду. Але ў выніку народнага волевыяўлення персанальны склад заканадаўчага органа ў Беларусі заўсёды атрымліваецца такім, «якім яна (улада) хоча яго бачыць».

Сваю зацікаўленасць у парламенце з пэўнымі загадзя зададзенымі характарыстыкамі ўлада пераносіць і на грамадства. Звернемся да вызначэння ідэалогіі, што даў АП на ідэалагічнай нарадзе ў сакавіку 2003 года: «Ідэалогія — гэта сістэма ідэй, поглядаў, уяўленняў, пачуццяў і вераванняў аб мэтах развіцця грамадства і чалавека, а таксама сродках і шляхах дасягнення гэтых мэтаў, увасобленых у каштоўнасных арыентацыях, перакананнях, валявых актах, што заахвочваюць людзей у сваіх дзеяннях імкнуцца да мэтаў, якія мы перад сабой паставім».

Пра якія мэты ідзе гаворка? Пра мэты, «якія мы перад сабой паставім». Хто такія «мы» — зразумела, а для разумення мэтаў адкрыем Інфармацыйны бюлетэнь Адміністрацыі прэзідэнта за красавік 2003 года, у якім апублікаваныя заўвагі АП у сувязі з выступамі ўдзельнікаў семінара: *«Ідэалагічная работа забяспечвае не толькі інтарэсы грамадства і народа, але шмат у чым і ўлады. <...> Таму трэба не толькі ўтрымліваць уладу. І не толькі ўтрымліваць, але і абараняць. І лепш за ўсё гэта рабіць ідэалагічнымі сродкамі»* (выдзелена ў тэксце бюлетэня. — С.Н.).

З гэтым адкрыццём я і віншую чытачоў НЧ.

# Стары калійны сябар з Дохі

Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ,
спецыяльна для «Новага Часу»

**Чарговае з'яўленне Лукашэнкі ў Персідскім заліве ў сяброў-манархаў цудоўным чынам зноў супала з пагаршэннем яго адносін з Масквой. На гэты раз па праблеме аплаты за расійскі газ.**

Можна з вялікай ступенню ўпэўненасці выказаць здагадку, што Лукашэнка пайшоў на парушэнне дзеючага кантракту, дзе ясна прапісана цана за газ, банальна з-за адсутнасці грошай. Але сёння і ў Масквы няма такіх грошай, якія б дазволілі проста спісаць чарговы доўг беларускага боку. І, відавочна, натхнёны былой перамогай над расійскім «Уралкаліем», беларускі кіраўнік зноў вырашыў звярнуцца па дапамогу да казачна багатага Катару і без усялякіх анонсаў асабіста прыбыў у Доху.

Як уяўляецца, беларускі калій і ёсць тая ўласная валюта Лукашэнкі, з дапамогай якой ён можа адкрыць кашалькі арабскіх шэйхаў і выкруціцца з цяперашняй, небяспечнай для яго сітуацыі ў адносінах з Расіяй, дзе адзінаўладна валадарыць Пуцін. Трэба думаць, ён не забыўся і зрабіў свае высновы з гісторыі з «Уралкаліем».

Таму варта нагадаць былы калійны скандал паміж Мінскам і Масквой. Ён, мабыць, быў найбольш памятным для ўсіх у мінулы прэзідэнцкі тэрмін Лукашэнкі. А цяперашні нафтагазавы канфлікт можа стаць памятным ужо для наступнага прэзідэнцкага тэрміну.

Такім чынам, амаль тры гады таму гучны скандал паміж Мінскам і Масквой разгарэўся вакол найважнейшай беларускай кампаніі — «Беларуськалія». І катарскае кіраўніцтва, якое так гасцінна прымае сёння Лукашэнку і яго світу, тады выступіла ў гэтым канфлікце на беларускім баку.




Варта нагадаць, што сітуацыя вакол «Беларуськалія» паступова абвастралася ў 2011–2013 гадах. Урэшце канфлікт дасягнуў крытычнай кропкі. У ліпені 2013-га расійскі бок у асобе кіраўніцтва «Уралкалія» заявіў пра разрыў з «Беларуськаліем» і, адпаведна, пра спыненне сумеснай рэалізацыі калійных угнаенняў. Беларусь, якая не мела ўласных гандлёвых пляцовак, апынулася ў значна больш цяжкай сітуацыі, чым Расія. Аднак у Маскве не ўлічылі, што «Беларуськалій» імкнуліся набыць цэлы шэраг замежных бізнес-структур, уключаючы кітайскія, індыйскія, заходнія і катарскія, у інтарэсах якіх было скасаванне «калійнага шлюбу» Мінска і Масквы.

Адчайна паспрабаваўшы самастойна вырашыць праблему рэалізацыі сваёй прадукцыі, Мінск знайшоў (а можа, і яго самога знайшлі) дапамогу ў асобе расійскага антаганіста — Катара. І некаторыя назіральнікі адразу адзначылі, што манархічны Катар умяшаўся ў святая святых сферы расійскіх інтарэсаў на постсавецкай прасторы. А дакладней, ва ўнутраныя справы так званай Саюзнай дзяржавы. Падобна на тое, задуманая беларуска-катарская гульня апынулася выгаднай для двух сяброў з такіх розных светаў.

Не прайшло і тыдня з моманту афіцыйнага разрыву паміж дзвюма кампаніямі, як катарскі бок абавязаўся штогод прасоўваць на сусветны рынак праз уласную міжнародную пляцоўку, кампанію «Мунтаджат» (Muntajat, «Прадукцыя») 3 мільёны тон беларускіх калійных угнаенняў, што амаль раўняецца агульнаму выпуску прадукцыі «Беларуськалія» на дадзеным этапе. І афіцыйныя прадстаўнікі «Беларуськалія» заявілі ў сувязі з гэтым, што рады падпісаць гэтае пагадненне па маркетынгу калійных угнаенняў «Мунтаджат», якая з'яўляецца важным сусветным пастаўшчыком азотных угнаенняў. Была выказана зайздросная ўпэўненасць, што гэтая структура прывядзе да пашырэння недаступных для Беларускай калійнай кампаніі рынкаў.

Для многіх у Крамлі тады стала адкрыццём, што Катар, які шмат у чым асацыяваўся з газавай галіной, зможа нанесці ўдар, ды яшчэ ў сферы ўгнаенняў. Такім чынам былі прадэманстраваны небяспечныя для Масквы амбіцыі на ўкараненне на сусветным рынку ўгнаенняў і ажыццяўленне кантролю над іх замежнымі вытворцамі. Тады Мінск і Катар упершыню заявілі аб супрацоўніцтве па частцы сумесных продажаў мінеральных угнаенняў. І абвясцілі аб супрацоўніцтве па продажы беларускай прадукцыі на катарскай гандлёвай пляцоўцы.

Мінск і Доха праявілі гатоўнасць рабіць гэта ў абыход расійскага боку, з якім у Беларусі была дамоўленасць аб сумеснай рэалізацыі калійных угнаенняў. Паводле экспертных ацэнак, менавіта дапамога з боку катарскіх уладаў шмат у чым і справакавала Лукашэнку на такое выступленне. Без Дохі дзеянні Мінска, які знаходзіцца ў залежнасці ад расійскага боку ў пытанні распаўсюджвання прадукцыі, не былі б такімі выніковымі.

Варта асабліва адзначыць, што далейшае пашырэнне рамак функцыянавання «Мунтаджат» за кошт продажаў угнаенняў стала знамянальным этапам развіцця дзяржаўнага планавання катарскага кіраўніцтва. Пагадненне аб продажы калійных угнаенняў з Беларуссю азначае стратэгічную эвалюцыю бізнесу катарскай кампаніі. У дадатак да функцый кампаніі, якая дзейнічае як канал збыту хімічных рэчываў, палімераў і ўгнаенняў, якія выпрацоўваюцца ў Катары, пашыраецца яе сфера за кошт уласных глабальных аперацый з дадатковымі прадуктамі.

Гэта пагадненне мае выгаду і для растучай кліенцкай базы Катара, і для «Мунтаджат», і для «Беларуськалія». Вядома, што калійныя ўгнаенні карыстаюцца высокім попытам на сусветных рынках. Як адзначаюць спецыялісты, дабаўка гэтага прадукту ў партфель азотных угнаенняў, якія распаўсюджваюцца «Мунтаджат», умацоўвае нашы пазіцыі ў гэтым сектары і прапануе кліентам больш выгоду.

У той жа час, хоць «Мунтаджат» яшчэ нельга назваць вядучай сусветнай гандлёвай пляцоўкай, у Дохі, улічваючы рост яе фінансава-эканамічнага патэнцыялу, маюцца для гэтага шырокія перспектывы. Не выпадкова, што літаральна за некалькі гадоў Катар зрабіў прарыў на газавым рынку, у металургіі, а ў апошнія гады — і ў аграсферы.

Паралельна Катар спрабуе ўсталяваць кантроль і над вытворчасцю ўгнаенняў, асабліва азотных. І ўжо зараз у гэтым сегменце Доха займае прыкметныя пазіцыі. Што ж тычыцца беларускага напрамку, то Доха мае намер пашырыць з Мінскам супрацоўніцтва ў працэсе вытворчасці фосфарных угнаенняў. У выніку за кошт пашырэння свайго ўплыву і ў калійнай сферы Катар яшчэ больш умацуе свой уплыў на гэтым рынку.

Пры гэтым катарскае кіраўніцтва сапраўды нацэлілася на далейшае развіццё эканамічных сувязяў з Беларуссю. Адпаведным індыкатарам служыць актывізацыя іх кантактаў у апошнія два-тры гады. У тым ліку арганізаваная пры пасярэдніцтве Катара сустрэча прадстаўнікоў кампаній «Белнафтахім» і «Беларуськалій» з кіраўніцтвам Бразіліі.

Важную ролю ў іх адыграла ўсё тая ж кампанія «Мунтаджат». Пры дапамозе Дохі Мінск дамовіўся не толькі наконт продажу бразільскаму боку ўгнаенняў, але і пра ўзвядзенне ў Бразіліі пры дапамозе беларускіх інжынераў аб'ектаў лагістыкі.

Такім чынам, Доха наўпрост садзейнічала адкрыццю для беларускага боку раней амаль не даступнага бразільскага рынку. Адначасова Катар наглядна прадэманстраваў беларускаму кіраўніцтву, што супрацоўніцтва з ім у дадзеным выпадку больш прадуктыўнае, чым з Расіяй, ад якой Мінск амаль прывык чакаць толькі сур'ёзныя непрыемнасці.

Такім чынам, можна спадзявацца на новыя глабальныя дамоўленасці паміж Мінскам і краінамі Персідскага заліву.



Фота www.newsgomel.by

### Для даведкі

Як паведамляюць афіцыйныя агенцтвы, Аляксандр Лукашэнка прыбыў з афіцыйным візітам у Катар 29 кастрычніка. 30 кастрычніка ў Дохе прайшла сустрэча кіраўніка Беларусі з эмірам Катара шэйхам Тамімам бен Хамадам аль-Тані.

На сустрэчы былі вызначаны напрамкі для развіцця двухбаковых адносін — сферы інвестыцый і гандлю з акцэнтам на стварэнне сумесных прадпрыемстваў. Добрыя перспектывы для развіцця супрацоўніцтва ёсць і ў галінах дрэваапрацоўкі, паставак прадуктаў харчавання. Па гэтых кірунках у Катара ёсць вялікая цікавасць да Беларусі.

Лукашэнка прапанаваў даручыць урадам вызначыць тры-пяць добрых, выгадных абодвум бакам праектаў, якія маглі б стаць свайго роду лакаматывам развіцця адносін. Працягнуць абмеркаванне гэтых пытанняў мяркуецца ў ходзе будучага візіту эміра ў Беларусь.

Быў падпісаны пакет дакументаў аб развіцці супрацоўніцтва ў розных сферах.

Пасля Катару Лукашэнка наведаў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, дзе сустрэўся з наследным прынцам Абу-Дабі, намеснікам вярхоўнага галоўнакамандуючага Узброенымі сіламі ААЭ шэйхам Мухамедам бен Заідам аль-Нахаянам. Адбылося яшчэ некалькі сустрэч, на якіх абмяркоўваліся «перспектыўныя кірункі развіцця двухбаковага супрацоўніцтва, а таксама рэалізацыя сумесных праектаў».

У 2015 годзе двухбаковы тавараабарот з ААЭ склаў 29,7 мільёна долараў, беларускі экспарт — 25 мільёнаў долараў. Экспарт быў прадстаўлены 121 таварнай пазіцыяй. У студзені-жніўні 2016 года беларускі экспарт склаў больш за 14 мільёнаў долараў (102,5% да аналагічнага перыяду 2015 года).

У Эміратах зарэгістраваныя прадстаўніцтва ААТ «МАЗ» (у СЭЗ эмірата Шарджа), суб'ект тавапраправоднай сеткі ААТ «БМЗ» і прадстаўніцтва беларускай кампаніі «Сохра груп» (у СЭЗ эмірата Дубай).



Вязень у камеры для суіцыднікаў

Фота www.motherjones.com

**Што ў ЗША, што ў нас за знешняй паказухай начальнікі не хочуць бачыць патрэбы і праблемы вязняў, якія часта пазбаўленыя элементарнага, зневажаюцца і прыніжаюцца ахоўнікамі**

# Чатыры месяцы наглядчыкам у прыватнай турме



Мікола ДЗЯДОК

**Досвед амерыканскага журналіста праз прызму беларускай турэмнай рэчаіснасці.**

У лістападзе 2014 года амерыканскі журналіст Шэйн Баўэр уладкаваўся ахоўнікам у прыватную турму Він (Winn Correctional Centre) штата Луізіяна. Ён хацеў зрабіць расследаванне для інтэрнэт-журнала «Mother Jones» (www.motherjones.com) — некамерцыйнага СМІ левага і праваабарончага накірунку.

Вынікам чатырох месяцаў працы ў прыватнай турме кампаніі CCA (Corrections corporation of America — Амерыканская пенітэнцыярная карпарацыя) стала 60-старонкавае журналісцкае расследаванне з апісаннем усяго таго, што ён там пабачыў. Галоўнае месца Шэйн прысвяціў шматлікім злоўжываннем і некампетэнтнасці супрацоўнікаў турмы, што нарабіла вялізны перапалох у турме і стварыла немала клопату кіраўніцтву карпарацыі.

Прыватныя турмы ЗША ўтрымліваюць каля 8 працэнтаў усіх зняволеных краіны. Яны, як і ўся турэмная сістэма Злучаных Штатаў, з'яўляюцца аб'ектам жорсткай крытыкі — з аднаго боку, і хвалебных водгукаў — з іншага. Дакументальныя і мастацкія фільмы, праваабаронцы малююць лютыя бандыцкія парадкі, назіральнікаў-садыстаў і звышжорсткі рэжым утрымання. Прадстаўнікі адміністрацыі, некаторыя журналісты і недзяржаўныя арганізацыі кажуць аб поўнай законнасці і шырокім спектры правоў у зняволеных.

Праз амаль 10 000 кіламетраў мы з Шэйнам Баўэрам апынуліся, умоўна, па розныя бакі барыкад. У той момант, калі ён быў наглядчыкам, я адбываў свой тэрмін у адзіночнай камеры турмы №4 г. Магілёва (крытай). Дзякуючы свайму досведу, у мяне ёсць магчымасць тое-сёе параўнаць.

## Рэжым

«На ранішняй планёрцы старшы кантралёр і дзяжурны начальнік аховы Паркер распякаў нас з нагоды таго, аб чым дзяўблі цэлы тыдзень: закручванне гаек наконт абвіслых штаноў і самаробнага адзення. Начальства раздзлаванае, бо ніхто не выконвае іх загад. У прыватнасці, бурчаць афіцэры: калі старшая наглядчыкі не хочуць, каб асуджаныя насілі джынсы, выбеленыя адбельвальнікам, замест прадпісаных блакітных ад CCA — няхай канфіскуюць штаны самі. [...]

«Ці ведае хто, чаму мы не хочам, каб яны мелі індывідуальнае адзенне?» — пытае нас Паркер. «Мы хочам, каб яны былі ўпарадкаваныя (institutionalized). Ніколі не чулі такі тэрмін? Мы хочам, каб яны былі ўпарадкаваныя, а не індывідуалізаваныя. Нейкая псіхалагічная гульня? Так. Але ведаеце што? Гэта працуе ўсе тыя некалькі сотняў гадоў, што ў нашай краіне ёсць турмы. Вось чаму мы так робім. Мы не хочам, каб яны адчувалі сябе як індывідуумы. Мы хочам, каб яны — не магу падабраць лепшага выразу — адчувалі сябе як статак быдла. Мы проста перасоўваем іх з пункту A ў пункт B, дазваляем ім пасвіцца ў сталовай і потым вядзём назад у загон. О'кей?»



Шэйн Баўэр, аўтар расследавання

Думаю, пад гэтымі словамі мог бы падпісацца кожны супрацоўнік беларускай турмы — калі б, вядома, ён рэфлексаваў над тым, што робіць. Адной з першачарговых функцый турмы адносна асобы з'яўляецца ломка волі. Без яе немагчыма сабе ўявіць «выпраўленчы» працэс у турмах савецкага і постсавецкага тыпу. Усімі сродкамі чалавеку даюць зразумець, што ён — ніхто. Ён не мае правоў (у тым ліку права на ўласнае меркаванне), не мае асабістай годнасці і права неяк выказваць сваё «Я».

Адзін з самых эфектыўных метадаў упэўніць чалавека ў гэтым: прымусіць выконваць сотні дробных бессэнсоўных патрабаванняў. Напрыклад, запраўляць ложак «в установленном порядке», стаяць пашыхтаваным на пляцы, перапісваць па шмат разоў колькасць уласных рэчаў і, вядома, насіць вопратку строга ўсталяванага ўзору. У сукупнасці з пакараннямі за парушэнне (у беларускіх зонах за нашэнне спартовага касцюму можна лёгка адправіцца ў ШІЗА) такі сродак падаўлення волі моцна дэмаралізуе вязня і прымушае яго, сапраўды, адчуваць сабе часткай статку, а не чалавекам, — што і патрэбна наглядчыкам.

## Праверкі

«Хто ведае, што такое ACA? (American Correctional Assotiation — Амерыканская пенітэнцыярная асацыяцыя) — пытае нас Паркер. — Вы калі-небудзь чулі: «ACA ідзе! О-о-о! ACA ідзе. Мы ў паніцы! Цісніце трывожную кнопку!»

«Амерыканская пенітэнцыярная асацыяцыя», — бярэ слова нехта.

«О'кей, якая нам справа да ACA?» — пытае Паркер.

«Нам патрэбныя нашы працоўныя месцы. Трэба прайсці праверку».

<...>

«Цягам некалькі наступных тыдняў асуджаныя перафарбоўваюць кожнае аддзяленне ў чаканні праверкі ад ACA. Тэхнічны работнік, увесь змарнелы, бегае, спрабуючы адрамантаваць паламаную вентыляцыю, водаправод, дзверы камер і корпусаў».

«Раніцай у дзень праверкі мы падымаем усіх вязняў і кажам ім заправіць ложкі і прыбраць усе фота жанчын са сваіх тумбачак. Два добра апранутыя белыя мужчыны ўваходзяць у корпус Эш і робяць павольны круг па паверсе. Адзіныя пытанні, якія яны задалі Баклу і мне, — як нас завуць і як нашы справы. Яны не праверылі нашу ўліковую кнігу, не праверылі дадзеныя відэакамер. Калі б яны гэта зрабілі, яны б пабачылі, што некаторыя камеры не працуюць. Яны не праверылі дзверы. Калі б яны гэта зрабілі — яны б пабачылі, што іх трэба тузаць з усіх сіл, каб адкрыць, бо большасць электразамкоў не працуе. Яны не праверылі пажарную сігналізацыю, якая аўтаматычна закрывае газанепранікальныя дзверы на паверсе, для адкрыцця некаторых з якіх патрэбныя высілкі двух ахоўнікаў. Яны не пажадалі прайсці на корпус. Яны не размаўлялі з вязнямі. Яны зрабілі адзін круг і сышлі».

Апісанне падрыхтоўкі турмы Він да праверкі да болю нагадала мне тое, што я бачыў у турмах Беларусі. Адміністрацыя ў іх да такой ступені апантаная ідэяй пафарбаваць усё навакол, што, здаецца, праверкі толькі для таго і прыязджаюць, каб праверыць якасць мулярных прац.

Сістэмнае адрозненне складаецца ў тым, што ў беларускіх калоніях і турмах праверкамі займаецца пераважна ДВП (Дэпартамент выканання пакаранняў) МУС — тая ж структура, што кіруе турмамі. Уплыў

іншых дзяржаўных структур: пракуратуры, Следчага камітэту, Службы ўласнай бяспекі МУС — неістотны. Пра ўплыў недзяржаўных арганізацый, у адрозненне ад ЗША, увогуле гаварыць не даводзіцца.

Гэтаксама, як і ў прыватных турмах ЗША, «правяральшчыкаў» меней за ўсё цікавіць, што думаюць пра сваё становішча самі арыштанты. Скаргі, заявы, прапановы ўвогуле не збіраюцца, а калі і збіраюцца, не маюць ніякіх наступстваў, акрамя, бадай, пагаршэння жыцця таго, хто меў неасцярожнасць іх падаць.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць — палкоўнікі ДВП, што прыязджаюць інспектаваць беларускія калоніі, у адрозненне ад інспектараў АСА, надаюць матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню і дысцыплінаванасці персаналу велізарную ўвагу — правяраюць журналы, запісы відэакамер, стан памяшканняў і г.д. Але што ў ЗША, што ў нас за знешняй паказухай начальнікі не хочуць бачыць патрэбы і праблемы вязняў, якія часта пазбаўленыя элементарнага, зневажаюцца і прыніжаюцца ахоўнікамі.

## Кантроль

Шэйн Бауэр апісвае курсы падрыхтоўкі перад прыёмам на працу:

«Ён (супрацоўнік-трэнер) пытае нас, што мы павінны рабіць, калі бачым, як два вязня рэжуць адзін аднаго.

— Я паклічу яшчэ кагосьці, — прапануе адзін кадэт.

— Я сяду там і скамандую спыніцца, — кажа ахоўнік-ветэран.

Містэр Такер указвае на яго:

— Так, чорт пабяры. Менавіта. Калі яны не звяртаюць на вас увагі, што ж, вы больш нічога не можаце зрабіць.

Ён выстаўляе далоні кругам перад ротам:

— Спыніце бойку! — кажа ён нябачным арыштантам. — Я сказаў, спыніце бойку!

Яго голас робіцца бесклапотным:

— Вы не збіраецеся спыняцца, а?

Ён робіць выгляд быццам выходзіць праз дзверы і з грукатам іх зачыняе:

— Ну і заставайцеся там!

— Нехта пераможа. Нехта прайграе. Яны абодва могуць прайграць, але ж, урэшце, вы зрабілі сваю працу? Так, чорт пабяры!

Аўдыторыя выбухае рогатам».

Журналіст прыводзіць маналог аднаго са старых арыштантаў: «З таго часу, як я тут, я не бачу нічога, акрамя паназоўшчыны. Такога не адбываецца ў іншых турмах, бо там яны маюць уладу. Яны кантралююць абстаноўку. А тут кантролю няма, і таму нешта будзе ўвесь час здарацца. Пачынаць трэба зверху, а потым ісці ўніз, разумееш, аб чым я? Калі [персанал] сапраўды хоча кантраляваць гэтую турму — бляха-муха! — чаму б ім не ўзяць і не паклікаць больш супрацоўнікаў? Ведаеш, з-за чаго гэта ўсё? З-за грошай. Няхай забіваюць адзін аднаго. Ім проста нас*аць».

Любы вязень беларускай турмы скажа вам, што яна пакутуе ад чаго заўгодна, але не ад недахопу кантролю. Таму выпадак, калі адзін вязень рэжа іншага, у нашых турмах — сапраўднае надзвычайнае здарэнне. Па маіх звестках, дзесьці паміж 2013 і 2015 гадамі ў ПК-14 (Навасады) адзін вязень зарэзаў іншага заточанай сталёвай лыжкай. Як вынік: па ўсіх калоніях краіны ў зэкаў пачалі адбіраць сталёвыя лыжкі (яны лічыліся прыкметай статуснасці і дабрабыту, бо зэк мог здабыць іх толькі на прамзоне праз «патрэбных людзей») — пасля таго выпадку ўсіх абавязалі карыстацца алюмініевымі.

Так, вязні нярэдка б'юцца, але калецтва, а тым больш паназоўшчына, не сустракаліся асабіста мне ані разу за пяць гадоў. Больш за тое, як казалі мне дасведчаныя вязні, адміністрацыя калоніі абавязана дакладваць непасрэдна ў ДВП аб кожнай сур'ёзнай траўме зняволенага — не важна, атрыманая яна падчас гульні ў футбол ці бойкі.

## Пакаранні

«Калі на вязняў складаюць акт аб парушэнні рэжыму, іх адпраўляюць на ўнутраны суд, які адбываецца ў пакоі ў кутку блоку Сайпрэс. Аднойчы наш клас прывялі ў гэты маленькі пакой, каб паглядзець на пасяджэнні. Місіс Лаўсан, памочнік начальніка службы бяспекі, выступае ў якасці суддзі, седзячы на лаве насупраць насценнай выявы вагаў правасуддзя. «І хаця мы расцэньваем кожнага вязня як вінаватага, пакуль ён не дакажа адваротнага, яны...?» Яна робіць паўзу, каб нехта скончыў за яе.

— ...невінаватыя? — прапануе кадэт.

— Менавіта. Невінаватыя, пакуль не даказаная вінаватасць.

<...>

Згодна з DOC (Departament of corrections — Пенітэнцыярны дэпартамент) вязні турмы Він, абвінавачаныя ў сур'ёзных парушэннях рэжыму, аказваюцца вінаватымі як мінімум у 96 працэнтах выпадкаў.

— Абаронца вязня (inmate counsel), ваш падабаронны з'явіўся да суда? — місіс Лаўсан пытаецца вязня, што стаіць на трыбуне.

— Не, мэм, — адказвае той.

Абаронца вязня прадстаўляе іншых вязняў на ўнутраным дысцыплінарным працэсе. Кожны год яго возяць у дзяржаўную турму для інтэнсіўнага навучання. Пазней місіс Лаўсан казала мне, што абаронца вязня яшчэ ніколі не паўплываў на яе рашэнне.

Вязень, які адсутнічае, абвінавачаны ў тым, што падышоў занадта блізка да галоўнага ўваходу.

— Ці жадае адвакат быць абаронцам?

— Не, мэм.

— Ці лічыць ён сябе вінаватым?

— Ён лічыць сябе невінаватым.

— Містар Трэхан аб'яўляецца вінаватым.

Усё «пасяджэнне» цягнецца не больш за 2 хвіліны.

Паклікалі наступнага абвінавачанага. Яго хацелі выпусціць з ШІЗА.

— Вы ведаеце сваю Біблію? — запыталася місіс Лоўсан.

— Так, мэм.

— Ці памятаеце вы Евангелле ад Яна, дзе да Езуса прывялі блудніцу? Што ён сказаў?

— Я не памятаю гэтага, мэм.

— Ён сказаў: «Ідзі і болей не грашы». Яна паказала яму на выхад з пакою.

Зайшоў наступны вязень, прыбіральшчык блоку Сайпрэс. Яго абвінавацілі ў тым, што ён знаходзіўся ў недазволеным месцы, бо ўзяў венік для прыборкі корпусу, калі ў вязняў быў вольны час, а гэта недазволены час для прыбірання. Ён пачаў тлумачыць, што афіцэр даў яму дазвол на гэта. Місіс Лоўсан перапыняе яго:

— Як вы ставіцеся да сваёй віны?

— Думаю, я вінаваты.

— Вы аб'яўляецеся вінаватым і вам прысуджаецца 30-дзённая страта «добрага часу».

— Чорт! Ды гэта поўная дупа! Вы забераце мой добры час?!

Ён выбягае з пакою:

— Яны забяруць мой добры час! — крычыць ён у зале. — Забяруць мой добры час!

За выманне веніка з прыбіральні ў не прызначаны на тое час арыштант застанецца ў турме на 30 дзён больш, за што ССА атрымае болей за $1000».

Дысцыплінарную камісію, якая карае вязняў, беларускія арыштанты называюць «крэсьбіны». На ёй пануе прынцып поўнай прэзумпцыі вінаватасці арыштанта, а начальнік турмы ці калоніі — гэта цар і Бог, які цалкам трымае ў руках лёс і дабрабыт вязня. Абаронцы падчас гэтага «працэсу» ў беларускіх вязняў, канешне, няма.

За пераважную большасць пакаранняў: паліў у недазволеным месцы, нагрубіў кантралёру, апрануты не па форме, не падняўся па камандзе «пад'ем» — ШІЗА. Пры ўсёй цяжкасці гэтага пакарання (звычайна гэта 5–10 содняў у халоднай каморы без асабістых рэчаў, дзе спаць даводзіцца на дошках) вязні просяць лепш прызначыць яго, чым пазбавіць доўгачаканага спаткання з роднымі ці передачы, што дазволеныя 2–3 разы на год.

Акрамя гэтага, любое, нават самае мізэрнае спагнанне роўна на год закрывае для вязня магчымасць вызваліцца ўмоўна-датэрмінова.

## Медыцынскае абслугоўванне

«Аднойчы ў корпусе Эш некалькі вязняў закрычалі: «Чалавек упаў! Чалавек упаў!» Вялізны мужчына, Мэйсан, ляжаў на сваім ложку ў пакоі С2 з правай рукой на голых грудзях. Ягоныя вочы былі заплюшчаныя, а левая нага павольна рухалася ўзад-уперад. [...] Па рацыі я паведамляю, каб неслі насілкі.

Мэйсан пачынае плакаць. Ягоная левая рука сціснутая ў кулак. Ягоная спіна выгінаецца.

— Я напужаны, — кажа ён аднымі вуснамі.

Нехта кладзе руку на ягоную руку на імгненне:

— Я ведаю, сынок. Яны зараз прыйдуць і паглядзяць цябе.

Урэшце прыносяць насілкі. Медсёстры і іх падначаленыя ідуць павольна.

— Ім нельга было вяртаць гэтага мужыка сюды, — кажа мне вязень. — Раней сёння Мэйсан гуляў у баскетбол і ўпаў на зямлю ад болі. Ён пайшоў у медыцынскую частку, дзе яму сказалі, што ў яго вадкасць у лёгкіх.

Тры вязні бяруць Мэйсана разам з прасцінай і кладуць на насілкі. Яго рукі былі скрыжаваныя, як у муміі, калі арыштанты панеслі яго.

Праз некалькі гадзін яго прывялі назад у нашае аддзяленне:

— Яны сказалі мне, што ў мяне вадкасць у лёгкіх і што яны не збіраюцца адпраўляць мяне ў шпіталь

Некалькімі днямі пазней я бачыў, як Мэйсан валачыў сваю нагу і трымаўся рукамі за жывот. Я сказаў яму ўзяць стул. Ён сеў і згорбіўся, паклаўшы галаву на калені.

— Я адчуваю пульсацыю болю ў жываце, — кажа ён.

Мы просім, каб прынеслі інвалідны вазок.

— Яны сказалі мне, што ў мяне вадкасць у лёгкіх, але яны не павязуць мяне ў шпіталь. Гэта, чорт пабяры, вар'яцтва.

[...]

«Аднойчы я пабачыў мужчыну без ног у інвалідным вазку. Яго звалі Роберт Скот. Ён у турме Він ужо 12 гадоў.

— Я хадзіў, а потым трапіў сюды, — кажа ён мне. — Я хадзіў, меў усе свае пальцы.

Я заўважыў, што на ім — абрэзаныя пальчаткі, з якіх нічога не выглядае.

— Яны адрэзалі мае ногі ў студзені і пальцы ў чэрвені. Гангрэна не гуляецца з табой. Я хадзіў і хадзіў у медчастку, кажучы: «Мае ступні баляць, мае ступні баляць». А яны казалі: «З табой нічога страшнага не адбываецца. Я не бачу нічога страшнага». Яны не верылі мне альбо проста наязджалі на мяне: «Гэта зноў ты? Я не веру!»

У адным са сваіх інтэрв'ю былы палітвязень Ігар Аліневіч распавядаў: «Быў у нас адзін дзед, у якога бяльмо на воку з'явілася — ён аслеп. Дык замест таго, каб адправіць чалавека на аперацыю, да яго прыставілі, каб даглядаць, іншага дзеда, а падгузнікі купілі на ягоную ж пенсію. Таксама сустракаў адкрытых псіхаў, якія размаўлялі самі з сабой цэлы дзень. Іх пакалоць заспакаяльнымі — і зноў у зону выпускаюць».

Анальгін ад усіх хваробаў, выдзіранне зубоў праз кармушку, дыягнаставанне язвы страўніка шляхам прашчупвання жывата, прамыя адмовы ў аказанні медыцынскай дапамогі — усё гэта не арыштанцкія байкі, а штодзённая рэчаіснасць для беларускіх зэкаў. Цынізм медыцынскага персаналу і адміністрацыі ў дачыненні да пакут вязняў часам пераходзіць усе межы. Асабіста я бачыў чалавека, у якога з-за нейкай інфекцыі гнілі рукі — ад пальцаў да локця. Скура стала шэрай, пачала лушчыцца, а з-пад язваў на ёй сачыўся гной. Каб не запэцкаць рэчы вакол сабе, ён абматаў рукі туалетнай паперай і так хадзіў. Некалькі тыдняў дзяжурны лекар, якому паступалі штодзённыя скаргі, ніяк на гэта не рэагаваў. Вязня перавялі на медчастку з агульнай камеры, толькі калі пабачылі, што ён не можа займацца ўборкай — рэжымным мерапрыемствам.

***

Пагарда да асобы і абыякавасць да яе пакут з'яўляецца агульным маркерам усіх месцаў пазбаўлення волі. Як у прыватных, так і ў дзяржаўных інстытуцыях іерархічныя структуры ігнаруюць самыя элементарныя патрэбы вязняў — дзеля мінімізацыі выдаткаў і камерцыйнага поспеху, як у выпадку турмы Він, альбо дзеля «парадку» і «як бы чаго не выйшла» — як у выпадку беларускіх турмаў.

Апісанне жахаў і жорсткасці турмаў па ўсім свеце — якіх больш чым дастаткова ў адкрытым доступе для тых, хто цікавіцца, — ужо неаднаразова прымушала мяне паставіць пад вялікае пытанне само сцвярджэнне аб тым, што пазбаўленне волі можа кагосьці выправіць. За ўсе 5 гадоў зняволення сярод соцень людзей, з якімі я размаўляў аб іх стаўленні да іхняга турэмнага тэрміну і пакарання, толькі адзін адкрыта і шчыра сказаў мне: «Так, турма мяне выправіла!»

Гэты чалавек быў памагатым адміністрацыі і актыўным даносчыкам.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Зімбабвэ. Юань стаў афрыканскай валютай

Тое, пра што даўно хадзілі чуткі, апынулася праўдай — кітайскі юань сапраўды стане афіцыйнай валютай у Зімбабве. Разлічвацца юанямі юрыдычныя асобы пачнуць з 1 студзеня 2017 года. Натуральна, навіну ўспрынялі як чарговы крок паўзучай кітайскай каланізацыі Афрыкі. Аднак трэба нагадаць, што ў Зімбабвэ даўно ўжо няма сваіх грошай, якія напачатку стагоддзя знішчыла гіперінфляцыя. Яна часам дасягала 500 мільярдаў працэнтаў (!) на год. Таму ўсе разлікі ў краіне афіцыйна дазволена рабіць у доларах ЗША, рандах Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і батсванскіх пулах. Цяпер да гэтых валютаў далучыцца і юань. Лічыцца, што юань афіцыйна абвесцяць грашыма Зімбабвэ ў снежні, калі краіну наведае асабіста кіраўнік КНР. Дарэчы, ніхто не хавае, што абвяшчэнне юаня афіцыйнай валютай краіны стала хабарам Пекіну за тое, каб ён пагадзіўся спісаць Зімбабвэ пазыку ў 400 мільёнаў долараў. Прэса лічыць, што экспансія Кітая на фінансавых рынках Афрыкі на Зімбабвэ не спыніцца. Ужо называюцца краіны, якія таксама могуць перайсці на юань: Нігерыя, Ангола, Эфіопія і Мазамбік.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Авангардам па апазіцыі

Таджыкскія апазіцыянеры скардзяцца на рост актыўнасці групы «Авангард» — праўладнай моладзевай арганізацыі, створанай у жніўні 2015 года па ініцыятыве МУС Таджыкістана. Афіцыйнай задачай авангардысты лічаць прадухіленне ўцягвання моладзі ў тэрарыстычныя і экстрэмісцкія арганізацыі. На практыцы іх усё часцей выкарыстоўваюць для ціску на апазіцыю. Актывісты «Авангарда» праводзяць таксама маніфестацыі каля дамоў сваякоў апазіцыйных актывістаў, якія збеглі з краіны. Сваякоў і родных апазіцыянераў пры гэтым закідваюць яйкамі і камянямі. Самы жудасны выпадак адбыўся ў Кулябе, дзе была збіта 9-гадовая дачка мясцовай апазіцыянеркі.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ЗША. Паўстанне індзейцаў

Пакуль уся Амерыка сочыць за выбарамі прэзідэнта, практычна па-за ўвагай грамадскасці аказалася дастаткова буйное паўстанне індзейцаў з племені Сіу, якія жывуць у штаце Паўночная Дакота. Кампанія Dakota Access Pipeline цягне нафтаправод праз тэрыторыі, якія індзейцы лічаць святымі. На шляху будаўніцтва быў створаны лагер, які спрабуе заблакаваць праект. У адказ Dakota Access Pipeline звярнулася па дапамогу да паліцыі, якая намагаецца разагнаць пікеты пратэстоўцаў. Найбольш брутальныя сутычкі паміж індзейцамі і паліцыяй адбыліся 22 кастрычніка, у выніку чаго некалькі актывістаў былі арыштаваныя і, калі верыць індзейскім медыя, сталі ахвярамі катаванняў. Цяпер абодва бакі рыхтуюцца да рашучай бітвы. Індзейцы сабралі па ўсёй Амерыцы каля ста тысяч долараў на тое, каб узмацніць лагер пратэсту. Каля 200 плямёнаў у Злучаных Штатах прынялі рашэнне дасlаць валанцёраў на дапамогу Сіу. Індзейцы таксама не выключаюць, што пяройдуць і да фармату ўзброенага супраціву.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Чакаецца з'яўленне робін-гудаў

31 кастрычніка — апошні дзень, калі ўсе чыноўнікі і дэпутаты мусілі падаць электронныя дэкларацыі даходаў. Гэтыя дакументы — адно з патрабаванняў Еўрасаюза, які дапамагае Украіне змагацца з карупцыяй. Новая схема прадугледжвае, што службовыя асобы добраахвотна пазначаць усю ўласную маёмасць, выставіўшы свой дабрабыт на суд народа. Тыя, хто не падасць дэкларацыі або пазначыць няслушную інфармацыю, могуць нават атрымаць два гады турмы. Публікацыя электронных дэкларацый народных дэпутатаў і чыноўнікаў Украіны зрабіла эфект бомбы. Некаторыя выпадкі папросту шакуюць. Напрыклад, адзін дэпутат мае прыватную царкву, другі — цэлы замак. Найбольш жудасны выпадак тычыцца львоўскага палітыка, які прызнаўся, што мае каштоўную старажытную кнігу, якая фігуруе ў дакументах МУС як скрадзеная. Абураюцца ўкраінцы таксама з-за прызнання ўкраінскага прэзідэнта ў набыцці ім буйнога зямельнага ўчастка ледзь не сінхронна з атачэннем украінскіх жаўнераў падІлавайскам у 2014 годзе. Большасць палітолагаў лічаць, што гісторыя з дэкларацыямі цалкам дыскрэдытавала эліты і павялічыла шанцы на датэрміновыя парламенцкія выбары. Сацыяльная турбулентнасць таксама можа ўзмацніцца праз тое, што вялізарныя грошы палітыкаў кантрастуюць са сродкамі простых людзей. Некаторыя палітолагі ў сувязі з гэтым не выключаюць моды на Робін-Гуда, што, абапіраючыся на сімпатыі простых людзей, будзе рабаваць аўтараў дэкларацый.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Літва зялёная

Алег НОВІКАЎ


Фота www.gullutube.pk/

**У суседняй Літве рэзка змяніўся партыйны ландшафт. Упершыню ў гісторыі малавядомая партыя «Сяляне і Зялёныя» (LVŽS), якая перамагала на парламенцкіх выбарах, атрымлівае права фармаваць кабінет.**

Напэўна, толькі ва Усходняй Еўропе магчыма, каб дэпутацкая квота якой-небудзь партыі вырастала па выніках выбараў роўна ў 54 разы. Такі цуд здарыўся ў Літве, дзе прадстаўленая ў папярэднім Сейме адным-адзіным дэпутатам партыя «Сяляне і Зялёныя» па выніках кастрычніцкіх выбараў атрымала 54 мандаты. Больш за тое — зараз гэта самая буйная фракцыя ў парламенце, што надае ёй права фармаваць урад.

Самі лідары LVŽS сябе выскачкамі не лічаць, паколькі афіцыйна вядуць свой радавод яшчэ ад даваеннай Партыі сялян. Менавіта на традыцыі той партыі арыентаваліся стваральнікі Сялянскай партыі, якая была заснаваная ў 2001 годзе.

У 2005 годзе старшынёй «Сялянаў» стала палітычны цяжкавагавік Казіміра Прунскене, першы прэм'ер Літвы пасля аднаўлення незалежнасці. Не дзіўна, што да 2008-га партыя была вельмі прыкметнай, маючы 14 дэпутатаў, і нават была ўдзельнікам урада, у якім адказвала за тры міністэрствы.

Аднак на выбарах 2008-га партыю чакаў катастрафічны правал: яна нават не перадолела прахадны пяціпрацэнтны бар'ер. Неўзабаве яе пакінула і Прунскене. Вакантную пасаду заняў Рамунас Карбаўскас — буйны аграбізнесовец. Новы старшыня запусціў працэс мадэрнізацыі партыі, які ў тым ліку ўключаў і рэбрэндынг. З 2009-га партыя пачала называцца «Сяляне і Зялёныя».



Па словах старшыні партыі, «сяляне заўсёды былі і будуць зялёнымі, таму што для іх важная рэальная, натуральная прадукцыя і дзяржаўная палітыка ўстойлівага развіцця». Наогул, «устойлівае развіццё» — асноўны праграмны тэзіс партыі. Паводле праграмы, гэты прынцып павінен быць пакладзены ў аснову ключавых для краіны кірункаў дзейнасці. А менавіта, літоўцам неабходна ўстойлівае чалавечае развіццё і гарманічнае грамадства, устойлівыя адукацыя і культура, устойлівая эканоміка і ўстойлівае дзяржаўнае кіраванне.

Хоць у партыі дастаткова левацэнтрысцкая праграма і шмат экарыторыкі, яе ідэалагічны профіль вельмі не выразны. Пасля выбараў у Еўрапарламент у 2014-м, калі партыя атрымала адзін мандат, яе лідары абвясцілі пра далучэнне да фракцыі кансерватыўнай Еўрапейскай народнай партыі. Пазней еўрадэпутат ад LVŽS далучыўся да групы зялёных.

Пра тое, што партыя застаецца загадкай, сведчаць і супярэчлівыя меркаванні замежнай прэсы. Маскоўская прэса называе партыю «ўмерана прарасійскай», пра што ў тым ліку сведчыць адзін забаўны нюанс: брат старшыні LVŽS працуе дырэктарам аднаго з тэатраў Масквы. Можа, таму Карбаўскас і заявіў, што ён ніякіх афіцыйных пасадаў у новым урадзе займаць не будзе.

Латышская прэса лічыць, што поспехам «Сяляне і Зялёныя» абавязаныя не праграме, а асобе. Партыйны спіс узначальваў самы папулярны ў краіне палітык, былы міністр унутраных спраў Саўлюс Сквярняліс, які, хутчэй за ўсё, узначаліць урад. Дарэчы, у Латвіі дзейнічае партыя пад аналагічнай назвай, і больш за тое — знаходзіцца пры ўладзе. Палітыку латышскай партыі «Сялян і Зялёных» можна ахарактарызаваць як празаходнюю і цэнтрысцкую.

Сочыць за літоўскімі падзеямі і польскі палітыкум. Яму неабыякавы лёс этнічных палякаў, якія кампактна пражываюць пад Вільняй. Прэса на Віслe баіцца, што падчас кадэнцыі «Сялян і Зялёных» узрасце ціск на меншасці. Напрыклад, Gazeta Wyborcza звяртае ўвагу, што «Сяляне і Зялёныя» звязаныя з арганізацыяй абароны літоўскай мовы, якая мае імідж жорсткіх нацыяналістаў. Яшчэ на стадыі кампаніі партыя анансавала, што не бачыць палітычную структуру літоўскіх палякаў партнёрамі па кааліцыі.

Што тычыцца літоўскіх палітолагаў, то частка з іх тлумачыць трыумф LVŽS збегам абставінаў. На хвалі расчаравання старымі партыямі літоўцы шукалі ў выбарчых спісах нешта свежае. Формула поспеху «Сялян і Зялёных» таксама ўключае ў сябе і такі фактар, як падтрымку ў рэгіёнах.

Верагодна, рэгіёнамі і будзе перш за ўсё займацца новы ўрад. У межах агітацыі на выбарах актыўна агучвалася ідэя кантраляванага дзяржавай банка, які будзе выдаваць крэдыты на развіццё рэгіёнаў. Таксама кандыдаты ад LVŽS актыўна абяцалі заняцца стварэннем дзяржаўнай манаполіі на алкаголь і сеткі дзяржаўных аптэк, дзе медыкаменты будуць на парадак танней. У сувязі з гэтым ёсць меркаванне, што, хутчэй за ўсё, за знешнепалітычны накірунак будзе адказваць партыя-партнёр па будучай кааліцыі.

Выбар партнёраў у партыі Карбаўскаса небагаты. У Сейм прайшлі кансерватыўны «Саюз бацькаўшчыны — Хрысціянскія дэмакраты Літвы», «Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя», «Літоўскі ліберальны рух», «Выбарчая акцыя палякаў Літвы — Саюз хрысціянскіх сем'яў» і партыя «Парадак і справядлівасць». У пэўным плане сенсацыйна правалілася на выбарах левапапулісцкая «Партыя працы», за якой стаяў алігарх рускага паходжання Віктар Успаскіх. З улікам раскладу мандатаў, LVŽS вырачаная шукаць саюзнікаў у парламенце альбо сярод кансерватараў, альбо эсдэкаў.

**Сяляне заўсёды былі і будуць зялёнымі, бо для іх важная рэальная, натуральная прадукцыя і выразная дзяржаўная палітыка ўстойлівага развіцця**

Пакуль найбольш верагодны фармат — блок з эсдэкамі. Лічыцца, што да канца тыдня ўрад пад кіраўніцтвам Сквярняліса так ці інакш паўстане. Кансерватары адмовіліся ад кааліцыйных перамоваў, хоць усё яшчэ не выключаюць блоку з LVŽS. Праўда, каб пачаць кансультацыі, кансерватары патрабуюць ад «Сялян і Зялёных» выканаць адно патрабаванне — прайсці праверку на лаяльнасць у Дэпартаменце дзяржбяспекі.




# Пасля 8 лістапада

Алег НОВІКАЎ

**Хто б ні перамог на выбарах у ЗША 8 лістапада, галоўная інтрыга захаваецца. Як засведчыла гэта электаральная кампанія, амерыканская палітычная мадэль падышла да пэўнай мяжы, калі ёй неабходныя рэформы.**

Новае вымярэнне выбараў 2016-га выявілася не адразу. Калі год таму кампанія за акіянам стартавала, яна не ўспрымалася як нешта фатальнае. З улікам таго, што рэспубліканцы дасюль знаходзяцца ў пошуку новай ідэнтычнасці, падавалася, што Хілары Клінтан забяспечаны лёгкі шлях да прэзідэнцтва. Аднак нечакана для ўсіх шаблон выбараў парушыўся. Больш за тое, выбары не толькі выявілі, але і абвастрылі мноства сацыяльна-палітычных праблем.

Перш за ўсё, аказалася, што кандыдаты ад істэблішменту не здольныя задаволіць вялізарную колькасць выбаршчыкаў. Паводле апытанняў, дзвюм традыцыйным партыям сёння сімпатызуе меншасць амерыканцаў, што, дарэчы, беспрэцэдэнтны ў гісторыі факт. Адсюль феномен пратэстнага галасавання ў абодвух партыйных лагерах. Кульмінацыяй унутрыпартыйнага бунту сярод рэспубліканцаў стала перамога на праймерыз эксцэнтрычнага Дональда Трампа. Аналагічны бунт сярод дэмакратаў прывёў да ператварэння ўчорашняга маргінала, сацыяліста Берні Сандэрса ў асноўнага апанента Клінтан.

Па сутнасці, мы становімся сведкамі паступовай дэлегітымацыі ўсёй палітычнай сістэмы, якая яшчэ нядаўна лічылася амаль аптымальнай, не выклікала крытыкі з боку большасці электарату. З'яўленне кандыдатаў накшталт Трампа і Сандэрса і пазітыўнае стаўленне да іх з боку вялікай колькасці выбаршчыкаў кажуць як мінімум пра пачатак крызісу двухпартыйнай сістэмы, якая склалася ў Злучаных Штатах прыкладна сто гадоў таму.

Такім чынам, хто б ні быў абраны 8 лістапада на пасаду прэзідэнта ЗША, ён дакладна сутыкнецца з байкотам і сабатажам з боку вялікай часткі аднапартыйцаў. Прычым у выпадку рэспубліканцаў унутрыпартыйны крызіс можа скончыцца расколам. Прэса прызнае, што партыя можа не перажыць Трампа як з'явы, нават калі той прайграе выбары 8 лістапада і сыдзе з палітыкі. Мільярдэр за час кампаніі за кошт папуліцскіх лозунгаў здолеў мабілізаваць радыкальны актыў рэспубліканцаў. Цалкам верагодна, што радыкалы не дапусцяць простага вяртання партструктуры ў аўтэнтычны рэйганаўскі фармат рэспубліканскай партыі.

Некаторыя СМІ нават заклікаюць рэспубліканцаў, незадаволеных Трампам, не губляць часу, а пакласці партбілет на стол і заняцца ўласным партыйным будаўніцтвам. Крызіс рэспубліканцаў можа паскорыць і перамога Трампа, якому давядзецца кіраваць краінай практычна не маючы падтрымкі ў дэпутатаў-аднапартыйцаў у кангрэсе.

Другім, і значна большым выклікам для Злучаных Штатаў з'яўляецца падзел краіны на дзве антаганістычныя, прычым у дадатак узаемна вельмі агрэсіўныя, фракцыі. Як прызнае прэса, выбарчая кампанія перарасла ў вербальную грамадзянскую вайну. Адказнасць за гэта ў тым ліку нясуць і кандыдаты, якія парушылі старыя правілы гульні, дазволілі сабе вельмі брудныя прыёмы падчас агітацыі, панізілі планку палітычнай дыскусіі.

Прычым, лінія расколу праходзіць не толькі сярод простых амерыканцаў, але і на ўзроўні элітаў, якім сёння ўласцівыя дыяметральныя погляды, перш за ўсё ў пытаннях знешняй палітыкі. Эліты дасылаюць грамадству самыя супярэчлівыя сігналы, што ў тым ліку праявілася ў феноменах Сандэрса і Трампа. Усе прызнаюць, што той жа Сандэрс без апоры на пэўныя ўплывовыя колы не прарваўся б у буйныя медыя і, як следства, не прайшоў бы далей за першыя раўнды праймерыз.

Так ці інакш, сённяшнія кандыдаты не маюць вялікіх шанцаў аб'яднаць расколатыя на два лагеры ЗША — абодва не карыстаюцца падтрымкай і сімпатыямі большасці. Апошняя акалічнасць ставіць пад пытанне здольнасць новай адміністрацыі праводзіць канцэнтраваную, у тым ліку знешнюю, палітыку.

Праўда, саму ступень расколу ацаніць вельмі цяжка. Некаторыя кажуць, што сітуацыя нагадвае Вялікабрытанію перад рэферэндумам наконт выхаду з ЕС, калі частка істэблішменту падтрымала Brexit, а іншая, наадварот, запісалася ў прыхільнікі еўраінтэграцыі. Камусьці цяперашняя сітуацыя нават нагадвае тую, што склалася перад грамадзянскай вайной у ЗША 1861–1865 гадоў. Напярэдадні вайны Лінкальн перамог на выбарах, але частка элітаў, якія яму апаніравалі, інерцыйна працягнула канфлікт, што ў выніку выліўся ў гарачую стадыю.

Таму зараз патрэбны пошук новай версіі амерыканскага кансенсусу, якую, відавочна, павінен сфармуляваць новы прэзідэнт. Характэрна, што крызіс амерыканскай мадэлі непакоіць не толькі амерыканцаў. Для большасці замежных, нават расійскіх, палітолагаў дэстабілізацыя ў ЗША з'яўляецца найгоршым варыянтам для глабальнага развіцця. За мяжою, дарэчы, таксама прапануюць свае праекты рэформаў у гэтай галіне. Некаторыя еўрапейскія палітолагі нават выступаюць за тое, каб на выбарах 2020 года абіралі прэзідэнта ЗША ва ўсім свеце.

Ці атрымаецца ў будучага прэзідэнта прапанаваць новую, інтэгруючую соцыум канцэпцыю палітычнай сістэмы, мы даведаемся дастаткова хутка. Пакуль жа можна з упэўненасцю сказаць: хто б з двух кандыдатаў — Клінтан або Трамп — ні стаў наступным прэзідэнтам ЗША, выбар, які зробяць амерыканскія выбаршчыкі ў бліжэйшы аўторак, можа апынуцца лёсавызначальным як для Амерыкі, так і для кожнага з нас.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мішэль Наім Аўн



Абранне 81-гадовага генерала Аўна на пасаду кіраўніка Лівана выглядае фантастыкай, калі паглядзець на яго біяграфію. У канцы 80-х гадоў генерал, які паходзіць з сям'і каталікоў-маранітаў, быў лідарам хрысціянскіх фармаванняў, непрымірымым ворагам Сірыі, якая ўвяла свае войскі на тэрыторыю краіны. Падчас вайны ён нават арганізаваў нешта падобнае на вайсковы пераварот, захапіўшы прэзідэнцкі палац. Аднак у выніку вайну ён прайграў і быў вымушаны збегчы з краіны.

Праз 16 гадоў Мішэль Аўн вярнуўся з эміграцыі, радыкальна змяніў погляды і стаў на бок кіраўніка Сірыі Башара Асада, з бацькам якога калісьці ваяваў. Саюзнікам Аўна таксама выступіла праіранская палітычна-мілітарная групоўка «Хезбалах». Аднак прэзідэнтам Аўн стаў дзякуючы не іранска-сірыйскім рэсурсам, а ў выніку незвычайнай дамовы. Ліван сёння дэ-факта падзелены на сферы ўплыву паміж Саудаўскай Аравіяй і Іранам. Наўрад ці Аўн стаў бы прэзідэнтам без згоды Эр-Рыяду.

Тое, што іранцы і саўдыты дамовіліся па Лівану, шмат хто ўспрыняў як знак магчымага кампрамісу паміж краінамі, якія фактычна знаходзяцца ў стане халоднай вайны. Ёсць надзея, што ліванскі прэзідэнт дапаможа мірнаму працэсу ў Сірыі і ў Емене. Аднак больш за ўсё задаволеныя простыя ліванцы. Прэзідэнта краіны не маглі абраць амаль два гады, што не спрыяла эканамічнай стабільнасці.

### Ігар Дадон



Лідар партыі сацыялістаў Малдовы выйграў першы тур выбараў прэзідэнта краіны, якія прайшлі 30 кастрычніка. Ён атрымаў 48 працэнтаў галасоў. Поспех Дадона выклікаў трывогу ў рэгіёне.

У Бухарэсце і Кіеве баяцца ператварэння Малдовы ў сатэліта Крамля. Тым больш, напярэдадні выбараў Дадон заявіў, што Крым — расійскай тэрыторыя. Ва ўкраінскім МЗС нават не выключаюць адклікання пасла ў выпадку прэзідэнцтва Дадона. Між тым, Масква дасюль не дала яскравага сігналу наконт падтрымкі сацыяліста. Пра гэта сведчыць, напрыклад, нізкая яўка на выбарах у Гагаузіі — самым прарасійскім малдоўскім краі. Шмат хто лічыць, што Дадон гуляе ў адной камандзе з прэм'ерам-алігархам Плахатнюком, які сёння кантралюе ўсю малдоўскую вертыкаль. Нездарма ў малдоўскіх турмах, дзе ўсё вырашае адміністрацыя, амаль 90 працэнтаў вязняў прагаласавалі за кандыдата ад сацыялістаў.

Такім чынам, не выключана, што Дадон у якасці прэзідэнта будзе проста вясельным генералам пры прэм'еры Плахатнюку (менавіта прэм'ер, а не прэзідэнт у Малдове, паводле Канстытуцыі, вызначае курс дзяржавы).

Таксама варта сказаць, што перамога Дадона ў другім туры застаецца пад пытаннем. У тым ліку не выключана, што правыя сілы могуць арганізаваць Майдан. Праўда, гэтая версія сумнеўная з улікам таго, што Марыя Санду — апанент Дадона ў другім туры, будучы міністрам адукацыі, праводзіла камерцыялізацыю ВНУ. Гэта, натуральна, не падабаецца студэнтам — асноўным удзельнікам малдоўскіх Майданаў.

### Махамед VI



Укараля Марока праблемы. У краіненазіраецца рымейк падзей у Тунісе 2011 года, якія запусцілі працэс «арабскай вясны». Як і ў Тунісе, у Марока адбываюцца масавыя хвалявання, выкліканыя, падавалася, дробным інцыдэнтам. У Тунісе гэта было самаспаленне дробнага гандляра, якога дасталі чыноўнікі. У Марока гэта выпадак, калі загінуў 30-гадовы рыбак.

Ён гандляваў рыбай, якую які інспекцыя прызнала вылаўленай з парушэннем закону. Паліцэйскія выкінулі яе ў смецявоз. Праз спробу выратаваць тавар, рыбак загінуў. Нехта з мінакоў зняў сцэну гібелі на відэа і выклаў у інтэрнэт, дзе гэта зрабіла фурор. На пахаванне рыбака прыйшлі каля тысячы чалавек, якія абвясцілі нябожчыка пакутнікам. Пахаванне перарасло ў антыўрадавую маніфестацыю, гэтыя акцыі перакінуліся на рэгіёны і працягваюцца дасюль.

Рэагуючы на пратэсты, манарх пастанавіў правесці расследаванне гібелі гандляра. У краіне затрыманыя каля дзесяці чалавек, аднак пакуль ніякіх прыкметаў таго, што сітуацыя нармалізуецца, няма. Цікава, што ў 2011 годзе Махамед VI не дапусціў імпарту моды на рэвалюцыю праз пашырэнне функцый парламенту, дзе сёння засядаюць памяркоўныя ісламісты. Аднак аказалася, што моладзі — касцяку пратэстаў — гэтых рэформ недастаткова. Між тым, 7 лістапада ў Маракешы павінна адбыцца сесія міжнародных перамоваў па клімаце. У гэты дзень апаненты ўлады абяцаюць новыя буйныя агульнанацыянальныя пратэсты.

# Алесь Краўцэвіч: «Мы маем прышчапіць патрыятычнае бачанне гісторыі»



Алесь КІРКЕВІЧ

**Гісторык Алесь Краўцэвіч пра навуку ды ідэалогію ў падачы гісторыі для шырокіх масаў.**

Гродзенец Алесь Краўцэвіч, вядомы як даследчык ВКЛ, рэдка прыязджае ў Мінск з лекцыямі ды прэзентацыямі. Не так даўно ён прывёз у сталіцу свае чарговыя выданні і прачытаў для шырокай публікі лекцыю пра навуковы ды ідэалагічны складнік у падачы гісторыі.

Сваімі думкамі пра папулярызацыю мінуўшчыны, міжнацыянальныя канфлікты на гістарычнай глебе, стаўленне да Міколы Ермаловіча, Уладзіміра Арлова ды Анатоля Тараса, Краўцэвіч падзяліўся з чытачамі «Новага Часу».

## Для ўкраінцаў Хмяльніцкі герой, для нас — захопнік

***— Чым найперш павінен кіравацца гісторык: нацыянальнымі пачуццямі ці прынцыпамі аб'ектыўнасці?***

— Гісторык мае кіравацца прынцыпамі навуковага даследавання. Інтэрпрэтаваць крыніцу шматбакова, шматгранна, не прымаць крыніцу за абсалют. То бок выкарыстоўваць той апарат, які атрымаў падчас навучання прафесіі. Але, разам з тым, глядзець на падзеі з пазіцыяў сваёй нацыі.

Добры прыклад: казакі Хмяльніцкага, якія будавалі казацкую дзяржаву, змагаліся за свае нацыянальныя правы. А ў нас яны рэзалі, палілі, забівалі… захопнікі!

***— Дык ці могуць беларускія і ўкраінскія гісторыкі прыйсці ў гэтым пытанні да згоды, калі казаць пра таго ж Хмяльніцкага?***

— Могуць, але не адразу. Ёсць пазітыўныя прыклады, скажам, дамова не ўжываць пэўныя тэрміны. Так, польскія і ўкраінскія гісторыкі прыйшлі да згоды ў пытанні канфлікту на Валыні ў 1943 годзе. З абодвух бакоў яны дамовіліся не ўжываць слова «разня», але казаць «канфлікт». З гэтага трэба пачынаць. Але перад тым, як узгадняць пазіцыю з суседзямі, трэба выразна выказаць сваю пазіцыю. А ў беларускіх гісторыкаў з гэтым праблема.

## Каб цябе паважалі, трэба мець сваю пазіцыю

***— Вы закранулі цікавы момант наконт тэрміналогіі. Скажам, тэрмін «Усходнія Крэсы», якім карыстаюцца палякі для Усходняй Беларусі ды Украіны. Ці пратэстуюць беларускія гісторыкі супраць гэтага?***

— Пратэстуюць, напрыклад, прафесар Алесь Смалянчук адмовіўся ехаць на польскую канферэнцыю, дзе ў назве фігуравалі «Крэсы». Наколькі я памятаю, пасля яны гэтую назву прыбралі. Трэба мець сваю пазіцыю, каб цябе паважалі. То бок ёсць пазітыўныя прыклады, калі ты адстойваеш сваё, а суседзі гэта шануюць.

***— А негатыўныя прыклады ёсць?***

— Мне распавядалі, маўляў, запрасілі аднаго нашага гісторыка на канферэнцыю, якую арганізоўвала літоўскае зямляцтва за мяжой. Дык ён туды асцерагаўся ехаць… Чаму? Бо там трэба было б адстойваць свой беларускі пункт гледжання. А пасля яго могуць не запрасіць у Вільню больш — вось і ўсё.

Наша праблема — гэта адсутнасць грамадзянскага падыходу, які фармаваўся ў Еўропе стагоддзямі, у вольнай Еўропе, дзе не было прыгоннага права ад XIII стагоддзя. Кожны грамадзянін адказны за ўсю краіну. А ў нас кожны грамадзянін, у тым ліку гісторык, найперш дбае пра сябе, а краіна ўжо недзе далей…

## Я ішоў па слядах Ермаловіча

***— Але вы самі неяк прыводзілі ў прыклад Ермаловіча — зацятага патрыёта, што не быў дастаткова прафесійным гісторыкам… Як тут быць?***

— На жаль, Мікола Іванавіч не быў прафесіяналам, не валодаў навуковым апаратам. Звярніце ўвагу, што ў яго кнігах пра ВКЛ няма аніводнай спасылкі на лацінамоўнае выданне — толькі кірылічныя. А пісаць гісторыю ВКЛ без польскай гістарыяграфіі, скажам, гэта нонсэнс. Адсюль і непрафесійная трактоўка пэўных эпізодаў, напрыклад, лакалізацыя Літвы.




Фота www.novychas.by

**Перад тым, як узгадняць пазіцыю з суседзямі, трэба выразна выказаць сваю пазіцыю. А ў беларускіх гісторыкаў з гэтым даволі вялікая праблема**

Але ягоная галоўная заслуга ў тым, што Ермаловіч першым пачаў крытыкаваць тэзу аб заваяванні Беларусі літоўцамі. Тут ужо я, як гісторык, ішоў па ягоных слядах. Таму акурат гэты момант у ягонай творчасці мае не толькі грамадзянскае, але і навуковае значэнне.

***— Дык ці можа такі гісторык зашкодзіць, калі ён выкладае факты з патрыятычных пазіцый, але непрафесійна?***

— Гэта ўсё згладзіцца з цягам часу. Напрыклад, Карамзін у Расіі: шмат чаго напісаў не так, але ён быў першым! Гэта пэўны этап развіцця нацыянальнай гісторыі ў Расіі. Таксама і Ермаловіч будзе шанаваны як піянер сваёй справы. Адзіны аўтар, які пісаў на гістарычную тэму ў шуфляду ў часы СССР! Бо рэшта прафесійных гісторыкаў пісалі так, як вымагала партыя. А пасля прыйшла новая генерацыя гісторыкаў і працягнула ягоную справу, але ўжо больш якасна і прафесійна.

## Гісторыкам плацяць, каб яны не пісалі гісторыю

***— Калі казаць пра папулярныя патрыятычныя выданні гістарычнай літаратуры, то найперш у галаву прыходзіць Анатоль Тарас і яго серыя «Невядомая гісторыя». Што вы на гэты конт думаеце?***

— Я лічу, што гэта дрэнны прыклад, бо гэта непрафесійная і безадказная папулярызацыя. Тут пытанне: наколькі мы можам прымаць нізкаякасную патрыятычную творчасць? Я асабіста, прабачце за грубасць, такі прадукт «хаваць» не хачу.

***— А ёсць добрыя прыклады гістарычнай літаратуры для шырокай публікі, а не толькі для спецыялістаў?***

— Да такіх аўтараў можна залічыць таго ж Вітаўта Чаропку, Уладзіміра Арлова… Я, напрыклад, увесь час быў пад уражаннем і фактычна выхоўваўся на працах Кастуся Тарасава — гэта быў геніяльны папулярызатар. Ён акурат пісаў рэчы для шырокай публікі ў рамках навуковых канцэпцыяў, якія дакладна ведаў. Гэта рэдкасць, такое спалучэнне! Такія людзі і нараджаюцца не часта. Магчыма, у нас толькі дарастае такі аўтар, які напіша беларускую гісторыю і цікава, і навукова.

***— А як так сталася, што ў Беларусі няма папулярнага гістарычнага часопісу, які наўпрост можна было б набыць у шапіку па дарозе на працу? У Польшчы ды Расіі такіх выданняў дзясяткі, у нас — аніводнага…***

— Бо дзяржаўнай уладзе гэта не патрэбна. У Інстытуце гісторыі, дзе я пачынаў працаваць яшчэ за савецкім часам, былі планавыя тэмы. Чалавек на працягу пяці гадоў меўся напісаць твор на 100–200 старонак. Ён піша, на аддзеле гэта прымаюць, на савеце прымаюць, а пасля кладуць тэкст у шуфляду. Пасля ён сам ужо шукае альбо не шукае магчымасці для друку, але найчасцей у той жа шуфлядзе ўсё і ляжыць. Фактычна, гісторыкам плацяць за тое, каб яны не пісалі гісторыю.

## Спрачацца можна, але ў кулуарах

***— Вы неяк згадвалі цікавую гісторыю пра Ярэму Вішнявецкага, які на польскім баку душыў Паўстанне Хмяльніцкага. Ягоныя парэшткі захоўваліся ў адным польскім гарадку, і пэўны гісторык давёў, што цела не належыць Вішнявецкаму. Аднаго разу гісторык спусціўся ў тую крыпту, а там — ксёндз распавядае групе дзяцей пра нацыянальнага героя Вішнявецкага… І тут жа звяртае ўвагу дзяцей на гісторыка: «Давайце спытаем у пана гісторыка, ці сапраўды гэта Вішнявецкі?» Той разгубіўся, бо на яго глядзела 60 пар дзіцячых вачэй, і — пацвердзіў, што гэта той самы Ярэма… А што б вы сказалі ў такой сітуацыі?***

— Не ведаю. У той сітуацыі, я б напэўна зрабіў гэтак жа, як польскі гісторык. Але калі б мы мелі сваю сфармаваную беларускую сістэму адукацыі, сказаў бы, маўляў, трэба яшчэ даследаваць!.. (смяецца)

Справа ў тым, што зараз мы, на жаль, не маем магчымасці ўцягваць у дыскусію на гістарычныя тэмы шырокую публіку. Шырокай публіцы мы маем наўпрост прышчапіць патрыятычнае бачанне гісторыі. А спрачацца можна ў кулуарах. Калі зашчэпім, і ў нас будзе дзевяць мільёнаў беларусаў, якія ўспрымаюць беларускую гісторыю, тады зможам і кантраверсійныя, і супярэчлівыя тэмы абмяркоўваць і выводзіць у масы. Зараз жа праблема: як давесці да масаў простую і ясную патрыятычную канцэпцыю гісторыі краіны.




Фота www.novychas.by



# «Чортаў тузін» фактаў да 25-годдзя гурта «Крама»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Легендарнаму беларускаму гурту «Крама» ў лістападзе спаўняецца 25 гадоў. Дасюль на іх рок-канцэрты імкнуцца трапіць не толькі пасівелыя рокмэны «старой школы». Музыку «Крамы» паважаюць (як мінімум!) і наведваюць канцэрты прадстаўнікі пакаленняў «X» і «Z», якія па праву могуць лічыцца аднагодкамі гурта.**



Фота www.budzma.by

Здаўна «Крама» лічыцца адным з самых прадуктыўных хіт-мэйкераў, а таму і мае статус легенды айчыннай рок-сцэны. Музыканты гурта і іх лідар Ігар Варашкевіч ужо шмат гадоў радуюць і захапляюць слухачоў незабыўнымі хітовымі кампазіцыямі, якія з першых слоў кранаюць самыя патаемныя струны душы. Ну а фірмовы «крамаўскі» гук? Толькі дзеля яго і можна было б схадзіць на чарговы канцэрт уладальнікаў першай «Рок-кароны–1994»!

Усім аматарам творчасці беларускага гурта «Крама» мы прапануем прыгадаць некаторыя старонкі творчага жыцця музыкантаў і іх унёсак у развіццё айчыннай рок-сцэны.

**1** «Крама» ўтварылася ў 1991 годзе, і яе касцяком сталі музыканты гурта «Рокіс» — Ігар Варашкевіч (мелодыі, гітара, спеў, гармонік вусны), Сяргей Труханновіч (гітара), Ілля Шэўчык (гітара), Руслан Праўда (бас), Анатоль Горбач (бубны), Андрэй Белізяк (гукарэжысёр), Зміцер Лукашук (тэкставік). Такую назву музыканты абралі таму, што, як іранізаваў Варашкевіч: «Бескаштоўная рэклама нам з такой назвай была б забяспечана па ўсёй Беларусі — у сталіцы, у раённых гарадах, у вёсках, усюды, дзе ёсць гандлёвыя кропкі ці шыльды «Крама».

**2** Гурт стаў пераможцам рок-фестывалю «Басовішча–1992», у якім дэбютаваў у конкурсе маладых выканаўцаў. У 1994 годзе «Крама» стала першым пераможцам «Рок-каранацыі» і ўладальнікам «Рок-кароны–1994» як найлепшы беларускі рок-гурт. Ігар Варашкевіч успамінае той час: «Арганізатары першай айчыннай музычнай прэміі ўручылі нам «Рок-карону» ў прысутнасці тагачаснага міністра культуры і друку Беларусі Анатоля Бутэвіча, нас віталі кампазітар Эдуард Ханок, спявак Віктар Вуячыч. Была сапраўды цудоўная, святочная атмасфера!»

**3** Акрамя «Рок-кароны–1994», удзельнікі «Крамы» не раз адзначаліся спецыяльнымі «Рок-каронамі». Так, 1995 годзе музыканты былі названыя пераможцамі ў намінацыі «За адданасць жанру», у намінацыі «Традыцыі і сучаснасць» (1999), за «Лепшы альбом года» («Хавайся ў бульбу»). Гурт таксама стаў уладальнікам прыза ў намінацыі «За ўнёсак» прэміі «Rock Profi» ў сувязі з 20-годдзем выдання дэбютнага альбому «Крамы».

**4** У 1994 годзе музыканты гурта «Крама» занялі першае месца на буйным маскоўскім рок-фэсце «Пакаленне–94». Удзельнік гурта Сяргей Труханновіч быў прызнаны лепшым гітарыстам фестывалю і атрымаў у падарунак фірмовую электрычную гітару. Пасля гэтага поспеху расійскае тэлебачанне прадставіла права «Краме» выступіць у прамым эфіры на рэйтынгавым музычным шоу «Праграма А». Неафіцыйна музыкантам былі прапановы перайсці з беларускай на рускую мову ў песнях, каб без праблем выйсці на тамтэйшы рынак. На што Ігар Варашкевіч і яго сябры адказалі адмовай: «Не здрадзім!»

**5** У дыскаграфіі «Крамы» 8 поўнафарматных альбомаў, 1 канцэртны дыск, 1 дыск з лепшымі песнямі «The Best». Песні гурта выдаваліся на 14 складанках і фанаграфічных праектах. Таксама ў актыве «Крамы» адзін сінгл, выдадзены асобным CD — кавер «Enjoy The Silence», зроблены спецыяльна для праекта «Personal Depeche» з «крамаўскім» каверам на гэту кампазіцыю гурта «Depeche Mode».

**6** У «Сто найлепшых беларускіх песень» (па выніках праекту партала Tuzin.fm) увайшлі чатыры «крамаўскія». Гэта «Гэй там, налівай!» (музыка ўдзельнікаў гурта, словы Зм. Лукашука), «Гомельскі вальс» (музыка І. Варашкевіча, словы Зм. Лукашука), «Будзь разам з намі» (музыка І. Варашкевіча — А. Лявончыка, словы Зм. Лукашука), «Бяжы хлопец» (музыка І. Варашкевіча, словы Зм. Лукашука). Апошняя кампазіцыя стала стартавай у саўндтрэку да культавага відэафільму «Незвычайны канцэрт» (2000).

**7** У 1993 годзе брытанскія прадзюсары вырашылі наведаць былыя рэспублікі СССР, з мэтай пошуку новых талентаў на постсавецкіх прасторах. Мэтай іх падарожжа была Расія, але ў Мінску яны трапілі на адзін open air з удзелам «Крамы». Брытанцы адразу прапанавалі музыкантам кантракт на выданне ў Брытаніі васьмі альбомаў і, не даехаўшы да Масквы, вярнуліся ў Лондан. На жаль, часу і сродкаў хапіла толькі на адзін альбом, але які! Гэта была кружэлка на англійскай мове «Vodka on ice», назву якой далі самі брытанцы з камерцыйных меркаванняў. Альбом меў добрыя водгукі і ратацыю на брытанскіх радыёстанцыях, заўважаны слухачамі, асабліва на радзіме, дзе дыск «Vodka on ice» стаў фанаграфічнай рэдкасцю. У 2003 годзе кампанія «БМА-group» перавыдала рарытэт у аўтэнтычным афармленні.

**8** У 2002 годзе «Крама» выступіла на экалагічным фэсце «Мікрасфера», які праходзіў у польскай частцы Белавежскай пушчы. На гэтым фэсце музыканты гурта былі ўганараваныя прызам «За прапаганду беларускай мовы і культуры за мяжой і на радзіме».

**9** Музыканты «Крамы» супрацоўнічаюць з многімі запрошанымі музыкантамі, у тым ліку з гітарыстамі Аляксандрам Газізавым, Аркадзем Юшыным і Леанідам Вярэнічам, якому музыканты прысвяцілі асобную песню «Сябра мой Вярэніч Лёнік». Трывалае сяброўства і сумесныя канцэрты аб'ядноўваюць гурт з вядомым расійскім выканаўцам блюзу Мікалаем Аруцюнавым. Падчас супрацоўніцтва ў рамках праекту «Мікалай Аруцюнаў & Blues Barbarians» быў запісаны альбом «Live in Minsk», а на сумесных канцэртах Аруцюнаў (па адукацыі філолаг) разам з «Крамай» па-беларуску выканаў шмат кампазіцый, у тым ліку і такія хіты, як «Бяжы, хлопец» і «Выпі са мной да дна».

**10** Да 10-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС музыканты гурта разам з кіраўніком ансамбля «Сябры» Анатолем Ярмоленкам, лідарам гурта «Палац» Алегам Хаменкам, спевакамі Змітром Вайцюшкевічам і Веранікай Кругловай запісалі «Гомельскі вальс» (музыка І. Варашкевіча, словы Зм. Лукашука). На гэтую песню Ягорам Хрусталёвым быў зняты кліп, які трансляваўся на шырокую аўдыторыю толькі адзін раз. Як зазначыў Варашкевіч, разважаючы над вытокамі замоўчвання «Вальса» на радыё і тэлебачанні, прычына ў тым, што ў песні гаворыцца пра трагічны лёс усяго беларускага народа.

**11** «Крама» — адзін з паспяховых аўтараў беларускамоўных кавераў замежных рок- і поп-хітоў. Так, у творчым багажы каверы такіх «эвергрынаў», як «Bella Ciao» — песня італьянскіх партызанаў, удзельнікаў антыфашысцкага супраціву, або хіт Рэя Орбісана «Pretty Woman», або «Сюзана» з рэпертуару галандскага гурта «The Art Company» (якую ў нас ведаюць у выкананні Чэлентана). Таксама, у рэпертуары шмат іншых апрацовак, запісаных спецыяльна для праектаў, прысвечаных сусветна вядомым зоркам музыкі: гурта «Depeche Mode» — «Enjoy The Silence» (праект «Personal Depeche»), «Pink Floyd» — «Another In The Wall» (праект «Беларускі глёбус»).

**12** У 2008 годзе на фестывалі «Кліп-марафон» музычнае відэа гурта «Крама» на песню «Падае дождж» (рэжысёр А. Асадчы) было прызнана лепшым.

**13** Для футбольнага клуба «Дынама–Брэст» «Крама» стварыла гімн каманды. У яго аснову лягла мелодыя песні «Бяжы хлопец» на новы тэкст. Прэзентацыя гімна клуба адбылася падчас канцэрта «Дынама—Брэст Рок-Фэст», які адбыўся ў межах падрыхтоўкі да матчу з бабруйскай «Белшынай».

Безумоўна, усе гэтыя факты не могуць поўнасцю адлюстраваць багаты творчы шлях беларускіх музыкаў. Але іх лёс, як і лёс іншых «генералаў айчыннага року», сведчыць: таленты ў нашай краіне не пераводзяцца.

І прыхільнікі айчыннай рок-музыкі здолеюць у гэтым пераканацца: 12 лістапада ў канцэртнай зале «Prime Hall» пры падтрымцы сяброў з гуртоў «Neuro Dubel», «Trubetskoy», «J:Морс», «Палац» адбудзецца юбілейны канцэрт «Крамы». Там можна будзе атрымаць адказ на пытанне: «Што дапаможа нам?» — «Толькі рок-н-рол!»

# Адродзім сядзібу Язэпа Драздовіча

Марат ГАРАВЫ

**Адрадзіць сядзібу аднаго з заснавальнікаў нацыянальнага гістарычнага жывапісу Язэпа Драздовіча ў яговым былым шляхецкім засценку Пунькі на Глыбоччыне. З такім заклікам выступіў мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава падчас вандроўкі з нагоды 128-годдзя з дня нараджэння Драздовіча.**



Духоўныя сваякі Язэпа Драздовіча ля яго нага надмагілля працы Алеся Шатэрніка

Да вандроўкі далучыліся аднадумцы — лінгвіст Наталля Качаноўская і сувязіст Уладзімір Джэйгала з Мінску, грамадская дзеячка Ада Райчонак, краязнаўцы Уладзіслаў Ляскоўскі і Аляксей Петухоў з Шаркоўшчынскага раёна, паэтка Марыя Баравік, краязнаўца Мар'ян Місевіч з жонкай Людмілай, мастак Віктар Арочка, журналісты Таццяна Смоткіна і Зміцер Лупач з Глыбоччыны.

Разам з жыхарамі вёскі Ліпляны яны наведалі магілу Драздовіча на мясцовых могілках, дзе ўсклалі і высадзілі кветкі. Вандроўнікі пабывалі на месцы, дзе нарадзіўся Язэп Драздовіч, — у засценку Пунькі, што знаходзіцца прыкладна ў 2 кіламетрах на поўдзень ад Ліплян.

Як зазначыў ініцыятар вандроўкі Мікола Купава, Пунькі захоўвалі прыстойны выгляд да пачатку стагоддзя, пакуль там жыў засцянковы шляхцюк Артур Адахоўскі. У яго гаспадарцы было ўсё патрэбнае для самастойнага існавання, а выжыў спадар Артур пад Саветамі толькі таму, што хаваўся ад іх пераследу ў Галубіцкай пушчы.



Бюст мастаку ў Глыбокім. Дарэчы, у Траецкім прадмесці сталіцы стаіць адзіны ў Мінску помнік мастаку — менавіта вечнаму вандроўніку Язэпу Драздовічу аўтарства Ігара Голубева

Пасля смерці гэтага гаспадара Пунькі здзічэлі.

Мікола Купава захацеў вярнуць гэта знакавае для Беларусі месца і звярнуўся з лістом да міністра культуры Барыса Святлова, які падтрымаў мастака.

Мікола Купава прапануе стварыць у Пуньках мемарыяльную сядзібу-музей «Радзіма Язэпа Драздовіча» з мастацкімі, літаратурнымі і этнаграфічнымі зборамі.

Распрацоўку мастацкай часткі праекту Мікола Купава бярэ на сябе. Для рэалізацыі гэтай задумы ён лічыць неабходным узяць тэрыторыю засценку пад ахову дзяржавы, спыніць там усялякія гаспадарчыя працы, зрабіць абмеры і план Пунек, аднавіць іх былы краявід, правесці археалагічныя даследаванні на месцы сядзібы Язэпа Драздовіча.

Мікола Купава звярнуў увагу на тое, што мясцовыя ўлады выступаюць супраць гэтага праекту, і таму праігнаравалі запрашэнне паўдзельнічаць у вандроўцы.

Ада Райчонак распавяла пра стварэнне ў роднай вёсцы Германавічы Грамадскага культурна-асветнага цэнтру імя Язэпа Драздовіча, Музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, што з 1996 года праводзяць пленэры памяці мастака. Спадарыня Райчонак паведаміла, што дагэтуль у вёсцы Дворнава Шаркоўшчынскага раёна жывуць унучатыя пляменніцы Язэпа Драздовіча — Марыя Баравік і Караліна Шыпіла — дзеці брата мастака, земляроба Гаруся, пахаванага ў Лужках. Маці Язэпа пахаваная ў Германавічах, а старэйшы брат Кастусь — у Дворнаве.

Землякі вялікага беларуса падзяліліся ўспамінамі пра яго.

75-гадовая Галіна Шантар з Ліплянаў распавяла, што мастак цікава гуляў з дзецьмі, часта хадзіў па лесе, шукаў пнякі для разьбы па дрэве, збіраў, сушыў грыбы і варыў з іх поліўку, а ноччу выходзіў на двор і разглядаў, што дзеецца на зорках. Драздовіч хадзіў па вёсках, па замовах размалёўваў мэблю і пісаў на палатне свае прыгожыя і яркія насценныя дываны з беларускімі кветкамі і роднымі краявідамі. «У кожнай хаце быў такі дыван, а ў нашай — з трыма красналюдкамі (марсіянамі. — М.Г.). Адзін у бубен біў, другі ў трубу трубіў, а што рабіў трэці — не памятаю. За працы браў тое, што давалі, і таму жыў бедна. З ім заўжды быў салдацкі кацялок. Ежу ён гатаваў сам: на вогнішчы ці керагазе. Усе ў наваколлі ведалі Язэпку Драздовіча і паважалі, а некаторыя нават і пабойваліся гэтага дзівака — мастака і вандроўніка», — сказала жанчына.

Паводле слоў далёкага сваяка мастака Чэся Карчэўскага, калі б у яго былі грошы, была б даўно адроджаная сядзіба Язэпа Драздовіча. «Бо духоўна ён мне вельмі блізкі. Гэты вандроўнік, як і я, любіў гісторыю нашага краю і неба над ім, беларускую мову, родную зямлю з азёрамі, крыніцамі, лясамі, палямі, сенажацямі і лугамі, з кожнай сцежачкай, дрэвам, кустом і травінкаю», — падкрэсліў спадар Чэсь.

Мікола Купава запрасіў удзельнікаў вандроўкі зноў сабрацца на радзіме Язэпа Драздовіча вясною наступнага года, каб талакою распачаць працы па адраджэнні сядзібы вялікага беларуса ў Пуньках.

Вандроўнікі шчыра ўдзячныя годнаму нашчадку старадаўняга роду беларускай шляхты герба «Котвіч» Уладзіміру Джэйгалу, які за стырном машыны забяспечыў вандроўку на 500-кіламетровым маршруце Мінск—Глыбокае—Ліпляны—Пунькі—Перадолы—Мінск.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда; (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек**, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1077

Падпісана да друку 04.11.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.